
Сухавольцы→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Лёс спрадзены з мараў→9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 25 (2980) Год LVIII

Беласток, 23 чэрвеня 2013 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Прачысценская царква — гонар Бельска-Падляшскага

**У святкаванні ў Бельску-Падляшскім з нагоды 450-годдзя перанясення Прачысценскай царквы з Замкавай гары на сённяшнюю вуліцу Ягелонскую і ў гонар Бельскай іконы Прасвятой Багародзіцы, якое адбылося 9 чэрвеня, прынялі ўдзел вернікі і святары ўсіх бельскіх прыходаў і наваколля. Урачыстасць была нагодай прыпомніць славутую гісторыю Бельска, у мінулым аднаго з галоўных эканамічных цэнтраў Падляшша.**

Літургію ў Прачысценскай царкве, дзе знаходзіцца цудадзейная Бельская ікона Прасвятой Багародзіцы, узначалілі мітрапаліт варшаўскі і ўсяе Польшчы Сава і ўладыка Грыгорый (Харкевіч), былы епіскап бельскі. Пасля багаслужбы ўрачыстая працэсія пайшла на Замкавую гару, адкуль была перанесена царква. Там сабраныя маліліся за душы караля Аляксандра Ягелончыка, каралевы Алены, князя Міхаіла і княгіні Васы. Мітрапаліт Сава выступіў з прапановай узвесці часоўню на месцы замка, дзе раней знаходзілася Прачысценская царква.

У час святкаванняў настаяцель Прачысценскага прыхода і заадно намеснік бельскага дэкана протаіерэй Георгій Багацэвіч атрымаў ордэн святой роўнай апосталам Марыі Магдалены III ступені, а Прачысценскі прыход — ордэн святой роўнай апосталам Марыі Магдалены II ступені.

Пасля абеду канцэртная зала Бельскага дома культуры запоўнілася вернікамі і святарамі. Галоўным госцем быў вікарны епіскап Грыгорый з Беластоцка-Гданьскай епархіі, які, будучы епіскапам бельскім і заадно настаяцелем Прачысценскага прыхода, зрабіў многа для парафіі, між іншым, наглядаў за грунтоўным рамонтам царквы. Спецыяльна пад юбілей выйшла кніжка «Прыход Нараджэння Прасвятой Багародзіцы ў Бельску-Падляшскім», праілюстраваная сучаснымі і гістарычнымі фатаграфіямі. Яе аўтар, прафесар Антон Мірановіч, выступіў з дакладам, у час якога паведаміў, што — паводле рускіх летапісаў — бельскае гарадзішча заснаванае было ў 1038 годзе кіеўскім князем Яраславам Мудрым.


Дзеткі з беларускага дзіцячага калектыву «Лянок» Непублічнага прадшколля № 1 імя святога дзіцяткі Гаўрыіла ў Бельску-Падляшскім выступілі з пастаноўкай «Бельская хроніка»


У канцэртнай зале БДК сабраліся вернікі, святары і госці. У першым радзе справа: бельскі дэкан, мітрафорны протаіерэй Лявонцій Тафілюк, епіскап Грыгорый, пасол Сейма Роберт Тышкевіч, бурмістр горада Яўген Беразавец, прафесар Антон Мірановіч з жонкай Яўгеніяй

— Ад паловы XV стагоддзя Бельск стаў галоўным цэнтрам палітычнага і эканамічнага жыцця заходняй часткі Вялікага Княства Літоўскага. Пасля стварэння Падляшскага ваяводства і ўключэння яго ў 1569 годзе ў склад Кароны, значэнне горада на Белай яшчэ ўзмоцнілася. У пачатку XVI стагоддзя ў Бельску быў створаны праваслаўны дэканат Уладзімірска-Брэсцкай епархіі. Перад 1569 годам было ў Бельску 5 праваслаўных прыходаў, якія абымалі горад і навакольныя вёскі. Найстаражытная бельская парафія была створана на аснове царквы Нараджэння Прасвятой Багародзіцы. Прачысценская царква, узведзеная на Замкавай гары, была знішчана ў час татарскага нашэсця каля 1240 года. Адбудаваў яе князь Уладзімір Васількавіч. Царква была знішчана чарговы раз у час змаганняў за гарадзішча і адбудаваная перад 1484 годам княгіняй Васілісай, — расказваў у доме культуры прафесар Антон Мірановіч. — Прычынай рашэння перанесці царкву з Замкавай гары ў цэнтр горада была немагчымасць карыстацца царквой, калі замак закрываўся нанач. Храм быў таксама малаваты для шматлікіх вернікаў, якія прыбывалі ў Прачысценскую царкву пакланіцца Бельскай іконе Адзігітрыі, якую замкавай царкве ахвяравала княгіня Алена. Ікона праславілася шматлікімі цудамі і складана было прымаць у замку шматлікіх паломнікаў.

Рашэнне перанесці Прачысценскую царкву з Замкавай гары на новае месца было прынята ў 1506 годзе, але здзейснілася яно толькі ў 1562 годзе. Царква, разам з цудатворнай іконай, была перанесена на вуліцу Старагарадскую (зараз вуліца Ягелонская), у стары горад. Разам з храмам былі перанесены астанкі фундатаркі адбудаванай царквы княгіні Васілісы. У 1564 годзе, калі ў бельскім замку праходзіў Агульны сойм з удзелам караля Зыгмунта Аўгуста, ад маланкі загарэўся верхні замак, які спаліўся разам з ніжнім. Але царква была ўжо на новым месцы.

— Пажар жыхары Бельска ўспрынялі як божы знак, які перасцерагаў іх перад зменай законаў і веравызнання сваіх продкаў, — удакладніў прафесар Мірановіч.

У час сойма разглядаліся справы дзяржаўнай уніі Вялікага княства Літоўскага і Кароны, вяліся таксама размовы ў справе II Літоўскага статуту.

— Бельск свайго часу быў найбольшым гаспадарчым і культурным цэнтрам Падляшша. У 1576 годзе ў горадзе працавала ажно 250 рамеснікаў, — распавядаў прафесар Мірановіч. — Вернікі Прачысценскага і іншых прыходаў Бельска доўга выступалі супраць Брэсцкай уніі 1596 года і заставаліся пры праваслаўі. Калі прыход у 1839 годзе вярнуўся ў праваслаўе, шырока разгарнуў сваю дзейнасць. У 1870-1875 гадах быў праведзены рамонт царквы. Дзеткі вучыліся ў царкоўных школах. У 1915 годзе святары і большасць прыхаджан падаліся ў бежанства, з якога вярталіся пасля 1918 года. У міжваенны перыяд былі спробы паланізаваць рэлігійнае жыццё, чаму праваслаўныя вернікі супрацьставіліся.

У 1980-х гадах актывізаваў дзейнасць прыхадскі хор Прачысценскай царквы, які ў 1982 годзе атрымаў узнагароду ў час першых Дзён царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы. У тым часе быў збудаваны другі парафіяльны дом, у якім у 1998 годзе пасяліўся епіскап бельскі Грыгорый. Уладыка перанёс Бельскую ікону Прасвятой Багародзіцы з-за прастола ў храм, памесціў у ківоце, а яе копію перанёс у алтар. Вернікі і паломнікі атрымалі магчымасць пастаянна прыкладацца да іконы, а па пятніцах сталі чытаць акафіст перад Бельскай іконай Прасвятой Багародзіцы.

Царква ў 2001-2005 гадах была вельмі прыгожа адрамантаваная. Пад наглядам Прачысценскага прыхода пачаў дзейнічаць Дом праваслаўнай культуры, дырэктарам якога з'яўляецца айцец Георгій Багацэвіч. Знаходзіцца ў ім, між іншым, памяшканне Бельскага аддзялення Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія. Прачысценская царква — адзін з сімвалаў Бельска-Падляшскага, а прыход з'яўляецца цэнтрам духоўнага жыцця горада і месцам аказвання сацыяльнай дапамогі ў рамках «Фонду дамоў праваслаўнай культуры Варшаўска-Бельскай епархіі».

У час мерапрыемства з пастаноўкай «Бельская хроніка» выступіў беларускі дзіцячы калектыў «Лянок» з Непублічнага прадшколля № 1 імя святога дзіцяткі Гаўрыіла ў Бельску-Падляшскім. Калектыў быў рэкамендаваны публіцы як лаўрэат Гран-пры тэатральнага агляду, ладжанага БГКТ. Дзеткі, падрыхтаваныя настаўніцамі Мартай Зінкевіч і Іаннай Хількевіч, у гістарычных касцюмах паказалі сцэнкі з мінулага Бельска (прыгожае сцэнічнае афармленне выканала Міраслава Галашэвіч). Запрэзентаваліся яны па-акцёрску і разам з часткай харыстаў Прачысценскага прыхода праспявалі песню Бельскай іконе Прасвятой Багародзіцы, што асабліва кранула сэрцы сабраных.

— Я напісала словы песні ў гонар Бельскай іконы і адаптавалі мы мелодыю для гэтага твора, — заявіла Марта Зінкевіч, настаўніца прадшколля.

Бальшчане, якія прыйшлі ў дом культуры на юбілейны канцэрт, былі рады выступам розных выканаўцаў. Перад публікай запрэзентаваліся таксама хары Прыхода св. Георгія Пераможцы з Беластока, Праваслаўнага ардынарыята Войска Польскага і Прачысценскага прыхода. Зараз прыгожа адрамантаваная Прачысценская царква красуецца ў цэнтры горада і сваёй архітэктурай прыцягвае ўвагу турыстаў. Цяпер яны будуць маглі купіць новае кніжнае выданне і даведацца пра гісторыю праваслаўных прыходаў і горада з тысячагадовым мінулым.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**





# Дзіўныя рэчы

Дзіўная гэта рэч — мода. Вось апошнім часам дзяўчаты і маладыя кабеты сталі хадзіць па вуліцах толькі у райстопах, называючы іх порткамі. Праўда, ад гэтага гэтыя райстопы (ці як у нас кажуць, калготы) штанамі так і не сталі. Гэта, што называецца, відавочна — прычым у наўпростаым значэнні гэтага слова. Стараюцца не адставаць ад моды і мужчыны. Нашы гарады пераўтварыліся ў гэткія пляжы, па якіх ходзяць у спартовых, купальных і сямейных трусах шматлікія прадстаўнікі сямейства крыва- і валасатаногіх. Толькі зноў жа гэтыя сямейныя майткі ці футбольныя трусы шортамі ад гэтага не сталі. Бо класічныя шорты — гэта тыя ж абрэзаныя порткі. А трусы, як іх не назаві, трусамі і застаюцца. Гэта, канешне, лепш — чым усе ў аднолькавай уніформе і толькі з зацверджанымі, як у Паўночнай Карэі, відамі фрызур. Толькі свабода і разбэшчанасць — таксама розныя рэчы. Калі вульгарнасць і пошласць становяцца нормай — нічога добрага ў гэтым няма. Не хацелася б тут больш „разводзіць маралі" і прапісваць вулічны дрэс-код. Проста, гэтым людзям не паказалі праз тэлевізар ці інтэрнэт (а кніжак і газет яны ніколі не чытаюць), што такое прыстойнасць. Хочуць выглядаць гэткімі шлюхамі і клоўнамі — няхай выглядаюць, урэшце гэта іх права. На тое яно і свабоднае грамадства.

Дзіўная гэта рэч — інтымнае жыццё людзей. Тое, што раней людзі імкнуліся хаваць ад іншых (на тое яно і асабістае, інтымнае), то зараз усе імкнуцца выставіць на ўсеагульны агляд. І ад таго, што называецца гэтая публічная дэманстрацыя эфектнымі слоўцамі, кшталту „эпатаж" ці „гламур", сутнасць рэчаў не мяняецца. Тут можна было б для выразнасці выславіцца ненарматыўна, але ўстрымаюся. Зараз усё заходняе грамадства звар'явала на правах так званых сексуальных меншасцей. Вось возьмем да прыкладу так званыя „аднаполыя шлюбы". Хоць мільён разоў называй сужыцельства двух аднаполых людзей сям'ёй — такой яно ніяк не стане. Мужчына ніяк не можа нарадзіць дзіця, і жанчына ад іншай жанчыны таксама не ў стане зацяжарыць і гэта зрабіць. А калі вы свядома адмаўляецеся ад нараджэння дзяцей, то як вы можаце змагацца за права ўсынаўляць дзяцей?! Нейкае раздваенне ў галаве. Альбо іншы яскравы прыклад — тыя людзі, якія выступаюць за аборты, з'яўляюцца і найбольшымі абаронцамі правоў дзяцей. Ці не шызафрэнія гэта?

Некалі папулярным было такое выслоўе — няхай жывуць усе — хто з кім хоча. На тое яно і свабоднае грамадства. Але ж, калі нехта выступіць, прыкладам, супраць правядзення гей-парадаў — то ён ужо адразу „гамафоб", цемрашал і парушальнік правоў чалавека. Але насамрэч правы чалавека тут ні пры чым. Асабіста я супраць не толькі гомасексуальных, але і гетэрасексуальных парадаў! Сексуальнае жыццё чалавека — гэта яго асабістая справа, навошта ўсё гэта выстаўляць напаказ, навязваць іншым свой вобраз жыцця.

Дзіўная гэта рэч — палітыка. Але ў сённяшнім свеце вельмі проста разабрацца ў палітычных працэсах. Слухай кіраўнікоў дзяржаў — і рабі адваротныя высновы сказанаму. І ў 95-99 адсотках такіх высноў не памылішся. Прычым гэта характэрна амаль для ўсіх, хто дарваўся да кіравання краінамі, незалежна ад дзяржаўнага ладу — у Францыі, Беларусі, ЗША, Сірыі, Расіі, Нямеччыне... Знайсці сёння палітыка пры ўладзе, які кажа тое, што думае, а робіць тое, што кажа, практычна немагчыма. Вось кажа Абама забраць у амерыканцаў права мець і насіць зброю (пакуль гэтая прапанова не прайшла) — значыць, злачыннасць толькі ўзрасце, калі так зробяць. Вось загадаў Пуцін прыняць так званы „закон Дзімы Якаўлева" пра забарону амерыканцам усынаўляць расійскіх дзяцей — значыць, гэтыя дзеці будуць асуджаны на сіроцтва і пакуты на радзіме. Вось стаў Асад у Сірыі наводзіць дзяржаўны „парадак" — і заліў крывёй усю краіну. Вось загадаў Лукашэнка будаваць на Астравеччыне атамную станцыю, якая павінна ашчаслівіць увесь беларускі народ, і гэтая АЭС, калі ўсё ж будзе пастаўлена і запушчана, стане брацкай магілай для ўсёй Беларусі...

Дзіўны ўсё ж гэты свет, нешта не тое ў ім...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Тым не менш, тым не больш

Ці беларуская мова знаходзіцца «пад уплывам» ці «пад акупацый» рускай мовы — вось у чым пытанне. Прэзідэнт Лукашэнка вынес рашэнне па гэтым пытанні даўно. На прэс-канферэнцыі ў 2010 годзе аўтарытэтна заявіў, што «толькі ідыёт у гэтай краіне можа адмовіцца ад рускай мовы». Паколькі Беларусь больш за 100 гадоў знаходзіцца пад уплывам Расіі, таму, па словах прэзідэнта, мова славянскіх пабрацімаў стала часткай «душы нацыі». Беларускага народа. На доказ гэтага, папракнуў сваю родную мову ў тым, што няма ў ёй адпаведных навуковых і медыцынскіх тэрмінаў. «А тое, што мы прыдумалі, дык часам аж сорамна вымаўляць», — дадаў з ухмылкай.

З гэтым апошнім выказваннем можна было ад бяды пагадзіцца. Пры Савецкім Саюзе мовай выкладання ва ўніверсітэтах і політэхнічных школах была руская. Таксама і ў ніжэйшых. Ва ўстановах абавязвала руская мова. Беларускія эліты дагаворваліся па-руску. На вуліцах беларускіх гарадоў, у крамах, кафэ руская мова паслядоўна выпіхвала беларускую, якая звычайна асацыюецца з калгаснай вёскай, саўгасным невуцтвам і культурнай адсталасцю. З часам гэты падзел зацвердзіўся: горад гаварыў па-руску, вёска пабеларуску. Адукаваныя беларусы прыгадвалі сваю родную мову, калі наведвалі сваіх бацькоў у вёсцы. А тая традыцыйна культывавала ў гаворцы лексіку і граматыку так прыгожа ўвекавечаную ў вучоных пісьмёнах Скарыны — творах пятнаццатага стагоддзя.

Некалькі гадоў таму адна з вышэйшых школ у Беластоку прапанавала прафесару Уладзіміру Паўлючуку серыю лекцый па гісторыі філасофіі для групы беларускіх студэнтаў. Прафесар падрыхтаваўся да правядзення лекцый сумленна. Ён прыгадаў беларускія навуковыя тэрміны, спецыялізаваныя выразы і наогул поўную фразу вучонага даклада. Можна сказаць, што поўнасцю надзьмуўся беларускай мовай. Але якраз у час першай сустрэчы са студэнтамі адчуваў сябе як праколаты паветраны шар. Ні адзін з яго слухачоў ні ў зуб не зразумеў філасофскай лекцыі прафесара на роднай мове. Прафесару не было іншага выбару, як перайсці на рускую мову. Толькі што ў кантракце з вучэльняй была агаворка, што лекцыі маюць быць праведзены на беларускай мове. Мабыць, гэта было ў адпаведнасці з пажаданнямі саміх студэнтаў і іх беларускіх прамотараў. Таксама ўлады беластоцкай вучэльні былі перакананы ў мэтазгоднасці лекцый на беларускай мове.

Выснова з гэтага сумнага здарэння адна. Беларускія студэнты не ведалі, што беларускую мову яны ведаюць толькі ў гутарковай форме. Прафесар Паўлючук з болем у сэрцы мусіў адмовіцца ад беларускай мовы. Дарэчы, вельмі добра дамаўляўся з беларускай моладдзю, толькі што на рускай мове. Ці абазначае гэта, што беларускай мове наканаваны моўны скансэн?

Аднак, маю веру ў тое, што беларуская мова вернецца да... жывых, вярнулі Дар'я і Настасся, унучкі прэзідэнта Лукашэнкі. Некалькі месяцаў таму дзве кемлівыя дзяўчынкі сталі пераможцамі конкурсу, арганізаванага да 130-годдзя з дня нараджэння беларускага паэта і пісьменніка Якуба Коласа. Дзеці, якія прынялі ўдзел у конкурсе, арганізаваным музеем пісьменніка, павінны былі скласці на беларускай мове творчую работу «Гуляй, зіма, твая часіна!». Дар'я напісала казку пра незвычайнага снегавіка, а Настасся — пра аднарога. Снегавік як снегавік, але ў старославянскай міфалогіі аднарог з'яўляецца знакам надзеі.

Дзяўчаткі сцвярджаюць, прыводжу гэта за карэспандэнтам тэлеканала «Белсат», што «гаварыць па-беларуску навучыліся ў гімназіі і хочуць, каб заняткаў на роднай мове было больш. Школьніцы дома размаўляюць на рускай мове, аднак, любяць чытаць беларускія кніжкі. Свае працы напісалі на рускай мове і перакалалі на беларускую мову з дапамогай мамы». Тым не менш, тым не больш. А можа больш дададзь, больш адняць?

І гэта столькі як на гэты час я меў сказаць.

**Міраслаў ГРЫКА**

# Спачуванні

Нашаму рэдакцыйнаму калегу Мацею Халадоўскаму словы спачування з прычыны смерці Бацькі

**Вальдэмара Халадоўскага**

выказвае калектыў „Нівы"

**Вачыма еўрапейца**

# Віза-білет несумяшчальная з Кодэксам



Былі вялікія надзеі, асабліва дырэктара Падляшскай оперы і філармоніі Раберта Скальмоўскага, звязаныя з магчымасцю купіць білет у гэты храм мастацтва беларусам узамен за атрыманне бясплатнай візы. Як пісалі мы ў «Ніве», ён нават спадзяваўся, што з пачатку сакавіка, калі праект пад назвай «Візы за білеты» стаў ажыццяўляцца, пакарыстаецца ім да канца года 20 тысяч чалавек, бо столькі грамадзян РБ забраніравала білеты на канцэрты і спектаклі; з сакавіка па чэрвень прапанавай пакарысталіся каля 4500 беларусаў. Ініцыятарам кампаніі была якраз ПОіФ з некалькімі беластоцкімі турыстычнымі агенцтвамі, а актыўна садзейнічаў ёй польскі консул у Гродне Анджэй Хадкевіч. Гэта была прапанова для беларусаў, прыязджаючых у складзе арганізаваных груп, якім выдавалі бясплатныя культурныя візы. У рамках прапановы, у дадатак да білета ў оперу, таксама гарантаваліся пражыванне, харчаванне і экскурсія па горадзе. Кошт такой двухдзённай паездкі ў адным з партнёрскіх оперы турбюро складаў каля 200 злотых на чалавека.

І раптам, беларусам, якія хацелі б пакарыстацца прапановай ПОіФ, трэба зараз купіць культурную візу, — паведаміла прэс-агенцтву ПАП Міністэрства замежных спраў. Зараз да цаны такой паездкі трэба будзе далічыць консульскі збор у памеры 60 еўра. Паводле інфармацыі, прадстаўленай ПАП прэс-службай МЗС, міністэрства ў адпаведнасці з правіламі дзеючага Еўрасаюзнага візавага кодэксу, «абавязана да стандартызацыі працэдур выдачы віз у Беларусі». У камюніке напісана, што праграма бясплатных віз для беларускіх грамадзян у абмен на куплю білета ў Падляшскую оперу і філармонію была пілатажнай і да гэтага часу тычылася толькі прапановы, прадстаўленай гэтай установай. «У сувязі з ростам папулярнасці праекта, але і з-за ўзгаданых еўрасаюзных рэгуляцый было прынята рашэнне пашырыць праект на прапановы іншых польскіх культурных устаноў, якія будуць мець кантракты з турыстычнымі агенцтвамі аб стварэнні на іх базе праграм пабывак грамадзян Беларусі ў Польшчы», — дададзена. Міністэрства замежных спраў хоча перабудаваць пілатажна-рэкламны праект на пастаянную прапанову. Таму — як заяўлена — гэта звязана з адступленнем ад вызвалення ад консульскіх збораў за выдачу віз з мэтай «культурнага турызму». Пры нагодзе паведамлялася таксама, што візы застануцца бясплатнымі толькі для тых, каму менш за 25 гадоў.

Раберта Скальмоўскі заявіў пасля абвяшчэння рашэння, што ПОіФ гэтае рашэнне, безумоўна, будзе адчуваць, і будуць адчуваць гэта беластоцкія ўладальнікі гасцініц, рэстаранаў, гандляры і таксісты, паслугамі якіх карысталіся беларусы. У мясцовых СМІ рашэнне МЗС пракаментаваў таксама старшыня Падляшскага аддзела Польскай турыстычнай палаты Яўген Лаўранюк. На яго думку, візавы збор можа выклікаць адсутнасць цікавасці да праграмы з боку беларускіх турыстаў:

— 60 еўра пры сямейных выездах, бо паездкі ў оперу былі ў асноўным сямейнымі паездкамі, з'яўляецца бар'ернай цаной. Прытым візу не так проста атрымаць, таму што ёсць чэргі, чуем аб нейкіх хакерах і іншых дзіўных сітуацыях. Я не думаю, што захоча прыехаць у оперу такі лік наведвальнікаў, як раней.

Я не разумею гэтага раптоўнага рашэння МЗС. З сакавіка беларусы маглі атрымаць бясплатную візу, а цяпер не, хаця згадваны Міністэрствам замежных спраў Кодэкс і тады быў у сіле. У мяне склалася ўражанне, што гэтая эксперыментальная праграма «візы за білет» — пілатаж Міністэрства замежных спраў у Варшаве перад чыноўнікамі з Брусэля. Як аказваецца, ведамства Радаслава Сікорскага заслабое, каб прыадчыніць еўрасаюзную, памежную заслону для беларусаў.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# У мураванай вёсцы Сухавольцы

**— Нашая вёска Сухавольцы заўважальна памяняла свой выгляд у шасцідзесятых гадах мінулага стагоддзя. Тады жыхары сталі прадаваць драўляныя хаты і на іх месца масава будаваць мураваныя дамы. Тады быў добры прыбытак з сельскай гаспадаркі і было за што перабудоўвацца, — заявіў Аляксандр Негярэвіч у час беларускага фэсту «І там жывуць людзі», які 9 чэрвеня наладзіў у Сухавольцах Музей і асяродак беларускай культуры з Гайнаўкі.**



Жаночы вакальны калектыў «Вішанька-Чарэшанька» з Сухавольцаў з бурмістр Ірэнай Негярэвіч (у другім радзе, злева)

Мае суразмоўцы ўдакладнілі, што ў сяле зараз пад сто жылых дамоў, у тым ліку крыху больш за дзесяць драўляных хат, а ўсе астатнія — мураваныя. Па дарозе ў вясковую святліцу, таксама мураваную, побач якой быў наладжаны фэст, чарговы раз прыглянуўся я вясковай забудове. Большасць мураваных дамоў у гэтай вёсцы падобная на сябе. Нізкая падмуроўка характэрная для хат, збудаваных у шасцідзесятыя гады. Шматлікія ганкі ад вуліцы — гэта ўжо дэталі характэрныя для мураванай забудовы Сухавольцаў. Аднак вяскоўцы сумуюць па прычыне вымірання свайго сяла, у якім зараз жывуць перш за ўсё пенсіянеры. Беларускі фэст натхніў станоўчымі эмоцыямі старэйшых жыхароў, якія, нягледзячы на дождж, што стаў ісці ў пачатку мерапрыемства, сабраліся ў даволі вялікай колькасці, каб паслухаць беларускія песні. На фэст прыехалі таксама іх гарадскія дзеці і ўнукі, якія з зацікаўленнем глядзелі выступленні беларускіх калектываў, запрошаных гайнаўскім белмузеем, і горача апладзіравалі мясцовым гуртам з Кляшчэляў і Сухавольцаў.

— Самае важнае ў нашых фэстах — дайсці з беларускай песняй і музыкай да вёсак, дзе даўно не ладзіліся культурныя мерапрыемствы або арганізаваліся рэдка. Мы ладзілі фэсты ў суседніх Саках, Залешанах, у непадалёк распаложаных Тапарках, ці ў Палічнай. Робім гэта ў супрацоўніцтве з бурмістрам і Гарадскім асяродкам культуры «Гладышка» ў Кляшчэлях, — заявіў дырэктар Музея і асяродка беларускай культуры Тамаш Ціханюк.

Ад імя Гарадскога асяродка культуры «Гладышка» запрэзентаваліся дзіцячы калектыў «Мікстуркі», які распачаў выступленне з песні «Беларускі край, старонка родная», і маладзёжны калектыў «Фантазія». Кляшчэлеўская бурмістр Ірэна Негярэвіч, суарганізатарка фэсту, запрашала мясцовае насельніцтва наведваць Беларускі музей у Гайнаўцы і звярнула ўвагу на ангажаванасць насельніцтва Беласточчыны ў пабудову музея, які захоўвае і паказвае нашую спадчыну. Пахваліла таксама мясцовых жыхароў за грамадскую ангажаванасць у карысць усяго насельніцтва. У мінулым годзе і сёлета быў выдзелены вясковы фонд, які расходуецца на патрэбы сяла.

— Мы падалі ў «Лакальную групу дзеяння» праект рамонту вашай святліцы на суму 190 тысяч зл. Праект атрымаў ужо ўступную станоўчую ацэнку. Разлічваем атрымаць 70 тысяч зл. датацыі на рамонт і калі б наш праект быў канчаткова прыняты, мы прадбачваем распачаць рамонтныя працы ў 2014 годзе, — сказала бурмістр Ірэна Негярэвіч і ўдакладніла, што ў Сухавольцах пражывае 131 чалавек, у тым ліку толькі 4 асобы школьнага ўзросту.

У размове са мной бурмістр выявіла радасць з дзейнасці вакальнага калектыву «Вішанька-Чарэшанька» ў Сухавольцах, які ўдала знаёміць малодшае пакаленне з даўнімі мясцовымі песнямі са свайго рэпертуару. У калектыве спяваюць Барбара Зімнох, Галена Сахарчук, Лідзія Багроўская, Антаніна Негярэвіч, Таіса Беляк, Валянціна Рэпка і Вольга Рута (апошняя не выступіла ў час фэсту з-за жалобы).




Публіка хавалася ад дажджу пад тэнтамі і парасонамі

— Вельмі добра, што дзейнічае калектыў, у якім спяваюць жанчыны з Сухавольцаў. Нават мы ўжо не ведаем даўніх песень. У час выступаў «Вішанькі-Чарэшанькі» ёсць магчымасць паслухаць цікавыя песні, якія спяваліся менавіта тут, у нашых вёсках, — сказала бурмістр Ірэна Негярэвіч і сфатаграфавалася з сухавольскімі жанчынамі, якія паспяхова расплаўляюць мясцовы фальклор. У Кляшчэлеўскай гміне, з дапамогай гмінных улад, дзейнічаюць яшчэ два фальклорныя калектывы: «Дабрывада» з Дабрывады і «Каліна» з Дашоў.

— Мы рашыліся заснаваць калектыў пасля вакальных выступаў у нашай вёсцы. З гэтай мэтай звярнуліся мы за дапамогай да нашага псаломшчыка з Кляшчэляў Лукаша Барташука, які збіраў і запісваў даўнія песні. Мы пад яго наглядам развучвалі песні і пачалі выступаць з народнымі песнямі можа 6-7 гадоў таму назад. Яшчэ раней, бо з 2000 года, мы спяваем у царкоўным хоры, у царкве Марыі Магдаліны, якая была ўзведзена побач нашага сяла. Хорам кіруе, цяпер ужо дыякан, Лукаш Барташук, — сталі расказваць Валянціна Рэпка і Таіса Беляк. — Ёсць ахвота спяваць і надалей. Калі будуць запрашаць «Вішаньку-Чарэшаньку», то будзем выступаць.

— Мы любім спяваць нашыя песні і ахвотна выступілі ў Студзіводскім музеі, у Дабрывадзе, Палічнай, Тапарках, Саках, Кляшчэлях. Цяпер будзем спяваць у сябе, у Сухавольцах, — заявіла Барбара Зімнох.

— Жанчыны ўдала спяваюць таксама і ў нашым царкоўным хоры. У кожную другую нядзелю служыцца ў нашай царкве літургія. Нашыя людзі ахвотна ходзяць на багаслужбы, а ў нядзелі, у якія ў нас не служыцца, малодшыя ездзяць памаліцца ў Кляшчэлі, дзе і наш прыход. Частка старэйшых вяскоўцаў дабіраецца ў царкву св. Дзмітрыя ў суседніх Саках, — удакладніў Аляксандр Негярэвіч.

Старэйшыя мужчыны з настальгіяй сталі ўспамінаць сваю моладасць і час, калі, займаючыся на невялікіх надзелах зямлі, маглі пабудаваць новыя дамы, хлявы, клуні, купляць сельскагаспадарчую тэхніку.

— Зараз амаль ва ўсіх хатах жывуць пенсіянеры. Мы, старыя, дажываем у Сухавольцах. Маладых зараз у нас амаль і няма. Раней людзі здавалі зямлю за пенсію, а пасля сталі перапісваць на дзяцей. Зямля ў нас наогул дрэннай якасці. Зараз няма аніводнага каня, а толькі двух гаспадароў гадуе пад дзесяць кароў. Малодшыя пенсіянеры яшчэ самі абрабляюць поле, а старэйшым дапамагаюць дзеці. У нас найчасцей толькі па некалькі гектараў зямлі. Найбольш у нас старэйшых адзінокіх жанчын, але і адзінокія мужчыны жывуць. У мінулым мы налічылі ў Сухавольцах ажно 340 кароў. Жыло ў сяле больш за чатырыста чалавек, а зараз іх толькі больш за сто, — сталі расказваць мне Аляксандр Негярэвіч, Сяргей Галёнка і Рыгор Зялінка. — Беларускі фэст — добрая справа, бо можам прыйсці сюды і паслухаць нашую музыку.

— Мае равеснікі павыязджалі з Сухавольцаў на пастаяннае жыхарства ў Бельск-Падляшскі, Гайнаўку або ў Беласток. Я з Беластока прыязджаю, каб наведаць маму і рашыўся на фэст зайсці, — заявіў Мікола Рута. — Беларускі фэст — вялікае здарэнне ў вёсцы, бо даўно не было ў Сухавольцах такіх мерапрыемстваў.

Сярод публікі прысутныя былі праваслаўны і каталіцкі святары з Кляшчэляў — протаіерэй Павел Нікіцюк і ксёндз Ян Красоўскі, гмінныя чыноўнікі, ваяводскі радны Мікола Яноўскі і частка спонсараў, якія ўспамаглі арганізацыю фэсту, які ў асноўным быў ладжаны на сродкі Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі. Аліна Зазулінская з аб'яднання «Стакротка» з Палічнай заявіла, што яе арганізацыя сваёй задачай ставіць супрацоўніцтва паміж жыхарамі Кляшчэлеўскай і Дубіцкай гмін і інтэграцыю мясцовага насельніцтва. Сабраным прапанавалася з'есці суп, каўбаскі. Працаўнікі музея традыцыйна прадавалі беларускую літаратуру і сувеніры. Калі перастаў ісці дождж і засвяціла сонца, паявілася на фэсце больш моладзі, а старэйшыя асобы выйшлі з-пад вялікіх тэнтаў, закрылі парасоны і селі на лаўках. Па гарачым апладзіраванні было відаць, што спадабаліся ім беларускія песні ў выкананні калектываў «Гай» і «Дэкада-Бэнд» з Беластока ды «Арт-Пронар» з Нарвы. Да слухання беларускіх песень і да танцаў пад гукі беларускай музыкі заахвочвалі вядучыя мерапрыемства Караліна Герман і Паўліна Паўлючук-Коська. Паінфармавалі яны, што Беларускі музей наладзіў ужо ў нашых вёсках 30 беларускіх фэстаў з цыкла «І там жывуць людзі».

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## „Цаглінкі" на маёўцы ў Лодзі

У чарговую паездку з канцэртнай праграмай фальклорны калектыў „Цаглінкі" падаўся 25 мая г.г. у Лодзь. Старалюўкоўскіх самадзейнікаў запрасілі ў гміну Навасольна на XIV Экалясную самаўрадавую маёўку, якая адбылася 26 мая ў Гмінна-паркавым цэнтры культуры і экалогіі ў Пліхтаве. Гміна Навасольна — вясковая гміна (налічвае 800 сельскіх гаспадарак), распаложаная на ўсходніх акраінах горада Лодзі. Цікавінкай з'яўляецца факт, што сядзіба гміннай адміністрацыі знаходзіцца ў гарадскім пасёлку Навасольна, які ў склад гміны не ўваходзіць.

Самаўрадавая маёўка ў паркавым цэнтры мае 14-гадовую традыцыю, але ўжо другі год праводзіцца яна як экалагічна-лясное мерапрыемства на тэрыторыі Ландшафтнага парку Лодзінскіх узвышшаў.

Маёўка ў сонечную нядзелю прыцягнула каля дзвюх тысяч публікі. Мерапрыемства ўдастоілі самаўрадавыя ўлады на чале з маршалкам Лодзінскага ваяводства Марцінам Бугайскім. Перад абедам адбылася спартыўная частка — велагонка, салдацкі бег на кубак міністра абароны, турнір па петанку (гульні ў шары). У артыстычнай частцы на сцэну спачатку выйшлі гаспадары — юныя артысты з падставовай школы, гімназіі і цэнтра культуры ды тры гмінныя вакальныя калектывы. Пасля прыйшла чарга на гасцей — кашубскую фольк-групу „Пляскота" і беларускія „Цаглінкі". Наш калектыў на працягу паўтарагадзіннага выступлення сваімі песнямі ўзрушыў публіку да слёз. Людзі горача апладзіравалі і патрабавалі выступіць на біс. І што было рабіць у такім выпадку? Давялося „Цаглінкам" зноў падняцца на сцэну і праспяваць чарговыя пяць беларускіх і рускіх песень. „Цаглінкі" яшчэ раз паказалі сваё майстэрства і даказалі, што беларуская культура — атракцыйная гледачам і слухачам іншых рэгіёнаў Польшчы.

Два дні калектыў „Цаглінкі" гасцяваў на прыгожай Лодзінскай зямлі. Мы пазнаёміліся з культурным багаццем гэтай часткі нашай краіны. Сардэчна дзякуем усім тым, хто спрычыніўся да таго, каб калектыў „Цаглінкі" выступіў у цэнтральнай Польшчы.

**Віктар БУРА**

PS. Тыдзень пазней, 2 чэрвеня, „Цаглінкі" паспяхова выступілі на фэсце ў Альхоўцы Нараўчанскай гміны. Стаяла тады дажджлівае надвор'е. Калі „Цаглінкі" падняліся на сцэну, раптам навальнічны дождж спыніўся, паяснела неба... Гэта штосьці абазначае... на радасць і будучыню „Цяглінкам".

**В. Б.**

## Фатаграфіі Волкава на выстаўцы

18 мая гэтага года ў Музеі Белавежскага нацыянальнага парку ў Белавежы адкрылі выстаўку фотаздымкаў Віктара Волкава пад загалоўкам „Маё Падляшша". Выстава будзе працаваць да 5 ліпеня г.г. Запрашаем усіх зацікаўленых агледзець яе.

**(яц)**

# Нязведаныя наканаванні лёсу

Натура ў гэтым годзе пачала капрызнічаць з самай вясны — працяжнай, мокрай і халоднай. Асабліва халодныя былі ночы. Гароднiна не расла. Найбольш даюцца ў знакі працяжныя дажджы і навальніцы (з градам) не толькі ў паўночна-ўсходняй частцы Польшчы (на Падляшшы), але і ў Еўропе. Паводкі спасцігглі нашых паўднёвых суседзяў: Славакію, Нямеччыну і Венгрыю. 6 чэрвеня навальніца з градам прайшла над Кузавай. Град сыпаў з неба велічынёю струковай фасолі. І хоць Гайнаўшчыне не пагражае паводка, дажджавое надвор'е не паспрыяе сёлета земляробам. На гразкім полі вымаклі пасевы і бульба. Прыходзілася паўторна засяваць участкі.



Расспяваны „Гай". Злева: Тамаш Ціханюк — дырэктар Гайнаўскага беларускага музея, перад ім — спявачка „Вішанькі-Чарэшанькі"

Дажджавое надвор'е не паспрыяла таксама арганізатарам беларускага фэсту з цыкла „І тут жывуць людзі" ў Сухавольцах у нядзелю 9 чэрвеня. Імпрэза была назначана на гадз. 15. Зранння на пляцоўцы перад вясковай святліцай была падрыхтавана сцэна, упрыгожаная маявінай (ссечанымі дрэўцамі маладой бярэзіны), расстаўлены лаўкі для публікі. Калі я пад'язджаў пад клуб на пятнаццаць мінут да пачатку мерапрыемства, заспеў нешматлікіх гледачоў: жанчын пад парасонамі на лаўках каля плота і мужчын пад палаткай, дзе змяшчаўся прылавак Гайнаўскага беларускага музея з рукадзеллем і выданнямі. Сярод кола знаёмых сустрэў я бурмістр Кляшчэляў Ірэну Негярэвіч, дырэктара Гарадскога цэнтра культуры Лявона Алексеюка (ад іх я атрымаў запрашэнне прыняць удзел у мерапрыемстве), радных Аліну Зазулінскую з Палічнай і Галіну Гераз з Залешанаў, яе сяброўку Нінку, Яўгена Савіцкага з Сухавольцаў і мясцовых пявунь з гурту „Вішанька-Чарэшанька". Неўзабаве сустрэў я рэдакцыйнага калегу Аляксея Мароза. Паколькі ён будзе пісаць рэпартаж пра фэст, гісторыю вёскі і гурту, дык я абмяжуюся да другога мерапрыемства, якое праходзіла побач, у зале святліцы...

Калі закончыўся выступ беластоцкага гурту „Гай" пад кіраўніцтвам Марыюша Харужага, публіка дапаміналася спяваць на біс. Асабліва скандавалі пявунні „Вішанькі-Чарэшанькі". Прасілі выканаць песню „Нясе Галя воду". Але артысты паўторна не заспявалі. Арганізатары запрасілі гасцей на „гарбату". У зале святліцы чакаў багата застаўлены стол з ежай і напіткамі, фруктамі і пячэннем. Маім кампаньёнам па застоллі быў лідар гурту „Гай" Марыюш Харужы, які кінуў у бок сухавольскіх пявунь: „Мы штосці вам вінаваты", і загадаў сябру прынесці гармонік. Неўзабаве па зале панеслася добравядомая мелодыя „Нясе Галя воду". Затым былі іншыя песні. Спявалі ўсе пад гукі гармоніка. А запявалам была Антаніна Барысюк з Гарадскога цэнтра культуры ў Кляшчэлях. Дапамагалі ёй сухавольскія самадзейніцы з „Вішанькі-Чарэшанькі". Пасля да кампаніі далучыўся гурт „Арт-Пронар" з Нарвы Янкі Снарскага з вядучымі фэсту „І тут жывуць людзі" Паўлінай Паўлючук-Коська ды Каралінай Герман. Напевы ў святліцы доўжыліся больш за гадзіну. Немагчыма пералічыць усе песні, якія выконваліся ў час неафіцыйнага другога канцэрта. Адно можна сказаць — увесь час у зале царыла беларуская песня. Пакідаў я расспяваную кампанію адвячоркам, перад сёмай. На развітанні бурмістр Кляшчэляў Ірэна Негярэвіч кідае ў мой бок: „А не забывайце, пан Сідарук, што ў наступную нядзелю сустракаемся на святкаванні 45-годдзя гурту ў Дабрывадзе. Сардэчна запрашаем".

Падобныя запрашэнні атрымў я ад Янкі Снарскага, лідара гурту „Арт-Пронар" з Нарвы, які выступаць будзе на фэсце ў Падрэчанах і ад Аліны Зазулінскай — на роварны райд турыстычным шляхам з Палічнай у Тапіла. Шкада, што ўсе імпрэзы супадаюць у адну нядзелю, 16 чэрвеня. Відаць, пакарыстаюся запрашэннем у бліжэйшую Дабрываду.

Калі я выйшаў са святліцы, на пляцоўцы перад сцэнай сабралася шматлікая публіка. Праз хмары прабіваліся праменні схіляючагася да заходу сонца. Пачынаўся выступ чарговага гурту з Беластока песняй „Чараўніца". А ў вячэрніх навінах а 22-й гадзіне на тэлеканале TVN-24 паведамлялі: „Над Варшавай прайшла моцная навальніца з градам. На Торуньскай трасе вада сягала двух метраў. Былі затоплены дзесяць аўтамабіляў. Пажарнікі эвакуіравалі людзей з затопленых машын".

Вось якія нязведаныя наканавані лёсу падкінула нам натура ў гэтыя чэрвеньскія дні.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

# Мастакі малявалі лета



На працягу двух тыдняў у Старым Ляўкове працавалі мастакі з розных бакоў нашай краіны. Запрасілі іх на XIII Агульнапольскі мастацка-разьбярскі пленэр мастакі з Гайнаўкі Віктар Кабац і Данель Грамацкі (камісар сёлетняга пленэру). Прыехалі мастакі з Любліна, Аполя, Вроцлава, Кладавы (Велькапольскае ваяводства), Лэнчыцы, Беластока і Чаромхі. З Беластока ахвотна згадзіліся прыехаць Альжбета і Аляксандр Гжыбэк, Міраслаў Здрайкоўскі і Анна Юргелянец. З Гайнаўшчыны апрача мастакоў з самой Гайнаўкі ўдзельнічала Тамара Кердалевіч з Чаромхі.

Намалявалі яны 60 карцін і зрабілі 65 скульптур з гліны. Напрацаваліся. Усіх іх захапілі прыгожыя глухія закуткі Нараўчанскай гміны летам ды дзікасць прыроды ў лясах Белавежскай пушчы. Яны былі імі зачараваныя. Малявалі драўляныя хаты ў засені старых дрэў, платы са штыкецін (частакол), жураўлі пры калодзежах. Некаторыя мастакі з захапленнем малявалі выявы цэркваў у Нараўцы і ў Старым Ляўкове. Яшчэ іншыя рысавалі пейзажы: прыгожую даліну і павароты берагоў ракі Нараўкі, надрэчныя лугі ў летніх красках, Семяноўскае возера, а таксама дзікія лясныя ўрочышчы.

— Лес мае сваю таямніцу, свой каларыт, святлацені, сваю цішыню і музыку птушак і дрэў. Каб цікава намаляваць, неабходна ўсё гэта ўзяць пад увагу. Для кожнага мастака пушча — нялёгкая тэма, — кажа Віктар Кабац.

Мастакі палюбілі ціхія і спакойныя вёскі Нараўчанскай гміны. У Ляўкова прыязджалі яны некалькі разоў у розныя поры года: вясной, летам, восенню і зімой. Найчасцей летам. Ладзілі пленэры, між іншым, у Семяноўцы, Масеве і Скупаве. Усюды іх цёпла і сардэчна прымалі.

Сёлета скульптары займаліся ў вялікім зале святліцы і на керамічнай фабрыцы, якая знаходзіцца побач клуба. У печах фабрыкі гліняныя творы пераўтвараліся ў кераміку. Тэмы керамічных скульптур (на здымку) былі самыя розныя.

Зараз працы ўдзельнікаў пленэру знаходзяцца ў Гміннай галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы.

Трынаццаты пленэр адбыўся якраз у Ляўкове дзякуючы прыхільнасці і дапамозе войта Нараўчанскай гміны Мікалая Павільча, старшыні Суполкі „Будаўнічая кераміка" ў Старым Ляўкове Аляксандра Бандарука, дырэктаркі Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы Анны Стульгіс і кіраўнічкі святліцы ў Старым Ляўкове Галены-Марыёлі Рэент. Варта дадаць, што войт запрасіў мастакоў на пленэр у Нараўчанскую гміну ў наступным годзе.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Чаромхаўскія імпрэзы

Пачалося лета, а з ім — час культурных і спартыўных мерапрыемстваў. Гмінны асяродак культуры ў Чаромсе 31 траўня традыцыйна арганізаваў Сямейны фэст з нагоды Дня дзіцяці. Імпрэза ў пленэры пад назвай „Краіна незвычайных гульняў” пачалася ў 12:30, а выканаўцам было Таварыства „Клянза” з Беластока. Уступ быў свабодны. Удзельнічалі дзеткі са сваімі апекунамі. Гульні і забавы далі малечам шмат задавальнення, а пры тым падарункі ў выглядзе ласункаў за ўдзел у конкурсах аказаліся незвычайным атракцыёнам.

У той жа дзень на спартыўнай пляцоўцы „Орлік” адбыўся спартыўны турнір за кубак войта гміны. Розыгрышы праводзіліся ў дзвюх катэгорыях: футболе і валейболе. У валейбольным турніры жанчын удзельнічалі тры каманды: Добраахвотная пажарная каманда, Таварыства аматараў лакальных ініцыятыў „Амега” і „Архелан”. Пераможнай камандай аказаліся валейбалісткі пажарнікаў, затым „Амега” і „Архелан”. У такіх жа розыгрышах мешаных каманд удзельнічалі дзве каманды: „Юніёр Мах” і „Параненармальныя”. Перамаглі апошнія вынікам 3:1.

У футбольным турніры ўдзельнічала шэсць каманд: „Ольдбое”, „Налесьнікі”, „Насычальня”, „Маладое пакаленне”, Гмінная управа і „Цэнтрум”. Спаборніцтвы праходзілі ў дзвюх групах. У групе „А” змагаліся „Ольдбое”, „Налесьнікі” і „Насычальня”, а ў „Б” — астатнія. За І месца змагаліся „Маладое пакаленне” і „Цэнтрум”. Вынік атрымаўся нічыйны. Па пеналці вынікам 5:4 перамагла каманда „Цэнтрум” і яна заваявала сёлетні кубак войта.

На другі дзень, г.зн. 1 чэрвеня, у 18 гадзін адбылося цыклічнае мерапрыемства „Джэрэла — украінскія традыцыі і трансфармацыі”. Арганізатарамі былі Саюз украінцаў Падляшша і Гмінны цэнтр культуры. Імпрэза зводзілася да запрэзентавання вырабаў айчынных і ўкраінскіх рукадзельнікаў і музыкі ды фолькавай песні. У гэтай частцы са сваім „тутэйшым” рэпертуарам выступілі жанчыны з вёскі Чаромхі, „Вульчанкі” з Вулькі-Тэрахоўскай, „Гілочка” і трыо дзяўчат з Чаромхі-Станцыі, „Ранок” з Бельска-Падляшскага, „Ручаёк” з Белавежы”, „Родына” з Дубяжына, „Тры пальці” з Орлі, „Нарва” з Нарвы і „Беркут” з Ольштына. Надвор’е паспрыяла, хоць публікі было няшмат. У мінулым годзе на такой жа імпрэзе дождж перашкодзіў, — тлумачылі арганізатары. Сёлета пэўна нешта іншае паўплывала на невялікую прысутнасць. На маю думку, варта было паслухаць спевакоў, бо гурты прадэманстравалі багаты і разнародны рэпертуар, ды і піўцо пад парасонам з сябрамі можна было выпіць. Песні „Там у полі вэрба росла”, „Каля млына”, „Хлопцы едут па лучыну” (вёска Чаромха), „Горыла сосна”, „Там у вышнёвому саду”, „Чорны очка” („Ручаёк” з Белавежы) ці песня „Ой на горы цыганы стаялі”, выканаая трыо чаромхаўскіх дзяўчат, прыгадвалі мне маладосць, калі на лавачцы ў летнія ночы гэтыя песні спявала кузаўская моладзь. Няхай затым працягваецца традыцыя нашай народнай культуры і няхай гучаць „тутэйшыя” песні.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**





Выступае „Ручаёк” з Белавежы



## УВАГА КОНКУРС

### XVI Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

Рэдакцыя „Нівы” і Беларускі саюз Рэспублікі Польшча аб’яўляюць **XVI Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы.** У конкурсе будуць разглядацца працы грамадзян Польшчы на беларускай мове.

*Прынцыпы ўдзельніцтва*

**1.** Конкурс праводзіцца ў дзвюх узроставых групах:

— **I група:** дзеці і моладзь пачатковых школ і гімназій,

— **II група:** астатнія ўдзельнікі (выключна аўтары, якія не з’яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

**2.** У рамках груп конкурс праводзіцца ў дзвюх катэгорыях: паэзіі і прозы.

**3.** Конкурсныя працы, набраныя на камп’ютары або разборлівы рукапіс у чатырох экзэмплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб’ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і паслаць на адрас: **Redakcja „Niwy”, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok 2, skr. poczt. 84** з прыпіскай на канверце: XVI Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

**4.** Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такім нумарам групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

**5.** На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

**6.** Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

*Тэрміны*

1. Тэрмін дасылання конкурсных прац мінае **31 кастрычніка 2013 г.** (вырашае дата паштовага штампа).

2. Вынікі конкурсу будуць аб’яўлены ў снежні 2013 г.

3. Уручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел.

Конкурс праводзіцца дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра адміністрацыі і лічбавізацыі.

## Ёсць такі бар

У суботы і нядзелі ў Гайнаўцы нялёгка знайсці сталовую, у якой можна з’есці абед. Па вуліцы 3 Мая ёсць два рэстараны і яны бываюць часта заняты, між іншым, на розныя сямейныя ўрачыстасці. Гэтак было 18 мая г.г.

Не ўсе ведаюць, што ёсць прыватны бар па вуліцы Варшаўскай. Ён па-суседску з офісам мясцовага каблевага тэлебачання. Яго варта рэкамендаваць для ўсіх. Тут прыгожыя сталы і лавы з дрэва, чысціня, парадак і — што вельмі важна — ветлівае абслугоўванне. Абеды варыць, па ўсім відаць, вопытная кухарка. Яны вельмі смачныя. Калі хто еў тут адзін раз, дык з ахвотай будзе прыходзіць часцей. Гэта такое прытульнае месца. Быў я тут 18 мая г.г. і сустрэў замежных турыстаў з дзяцьмі. Яны падсілкаваліся ў гэтым бары і выходзілі задаволеныя.

## Царская дарога ў пушчы

Пешаходны турыстычны „Царскі шлях” існуе больш дзесяці гадоў і карыстаецца немалым зацікаўленнем наведвальнікаў Белавежы. Знаходзіцца ён у межах ахоўнай паласы Гвозьна Белавежскага нацыянальнага парку. Вядзе цераз маляўнічую, маладаступную частку Белавежскай пушчы.

„Царскую дарогу” цераз пушчу ўзнавілі паводле захаваных старых картаў . Доўгі фрагмент шляху праходзіць гістарычнай трасай. Праклаў яго спецыяльны царскі атрад для аблягчэння паляванняў царскай свіце. Расце тут шмат дрэў, якія пратрымаліся з таго часу. На дрыгвяных ды балоцістых адрэзках трасы зрабілі кладкі, каб летам можна было прайсці сухой нагою. Дык запрашаем на „Царскую дарогу”.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Крытыка дапамагла

Я пісаў на старонках „Нівы” пра ўхабістыя маставыя ды тратуары на некаторых вуліцах у Беластоку. Вельмі дрэнны тратуар быў, між іншым, ля скрыжавання вуліц кардынала Вышынскага і Герояў Монтэ-Касіна. А тут жа знаходзіцца Маршалкоўская ўправа, а насупраць яе бар „МакДональдс” ды аўтобусны вакзал ПКС і прыватных перавозчыкаў. Рух тут вялікі.

Сёлета гарадскія ўлады дзейсна падышлі да нашай крытыкі. З самага пачатку мая накіравалі сюды рабочыя брыгады і розныя будаўнічыя машыны. Зараз шпаркім тэмпам ідзе пракладка шырокіх тратуараў і аднаўленне абочыны вуліцы кард. Вышынскага. На абочыне пасеюць траву і пасадзяць кветкі ды яшчэ пабудуюць там-сям усходы. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Нашыя вучні — таленавітыя!

Усе зацікаўленыя артыстычнай дзейнасцю дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову, не маглі не прыйсці 7 чэрвеня ў клуб „Фама”. Тут вучні прэзентавалі беларускія песні і паказалі пастаноўкі на аснове твораў беларускіх пісьменнікаў. Уся ўрачыстасць была прымеркавана да канца навучальнага года. Мэтай сустрэчы было падвядзенне вынікаў артыстычнай дзейнасці маладых беларусаў Беластока.

Першым на сцэне выступіў вядомы чытачам „Зоркі” гурт „Баламуткі” з прадшколля № 14. Дашкольнікі праспявалі песенькі, якіх навучыла іх вядучая музычныя заняткі Анна Васькоўская. „Баламутак” крыху збаламуціў дым, які быў усяго сцэнічным эфектам. Дзякуючы таму ўсе прысутныя ведаюць, што дашкольнікі прыгожа спяваюць, адначасова махаючы рукамі і дзьмухаючы на туманы дыму. Канчаткова гэты эфект меў паўплываць на тое, каб глядач быў пад яшчэ большым уражаннем ад выступу маленькіх артыстаў. І так сапраўды было.

На сцэне ў клубе „Фама” мела месца таксама прэм’ера. Менавіта вучні пачатковай школы № 4 паказалі спектакль на вершы Міры Лукшы „Жывінкі з глыбінкі”. Прысутная на ўрачыстасці паэтэса прызналася чытачам „Зоркі”, што сваёй інтэрпрэтацыяй вучні ўпрыгожылі яе вершыкі, таму была пад вялікім уражаннем.

Найстарэйшыя вучні беластоцкіх гімназій і ліцэяў паставілі „Тутэйшых” Янкі Купалы.

Урачыстасць у клубе „Фама” паказала, што для беларускамоўнай моладзі навучальны год быў сапраўды працавітым. Таму тым больш цешацца, што неўзабаве чакае іх заслужаны адпачынак.

**Уршуля ШУБЗДА**

**Фота Радаслава ДАМБРОЎСКАГА**







## Вершы Віктара Шведа

### Знойдзены пярсцёнак

Сварыць маці гарэзу Фому:
Што ў сваю скажаш ты абарону,
Калі не прызнаўся нікому,
Што знайшоў залаты пярсцёнак?

— Уласніку перадаць быў гатовы,
Дзе ж знайсці мне таго чалавека?
Прачытаў на пярсцёнку я словы,
Як прысвечаны мне: „Твой навекі”

### Матацыкл купі мне тата

Просьба юнага Ігната:
— Матацыкл купі мне тата.
А майго жыцця сакрэт,
Каб аб’ездзіць цэлы свет.

— А які ў тваім сакрэце
Свет ты маеш на прыкмеце,
Мой сыночак дарагі,
Можа ўжо той свет другі?

*Патрыцыя БЯДРЫЦКАЯ*

### Стары дзед

*Галодны дзед сядзіць,*
*У жываце яму бурчыць.*

*Сядзіць дзед на печы,*
*Грэе старыя плечы:*
*Цэлы ранак працаваў,*
*Мех грыбоў назбіраў.*
*Але...*
*Карову не падаіў,*
*Свіней не накарміў.*
*Скаціна вішчыць,*
*А жонка крычыць!*

*Потым дзед на яе накрычаў*
*І... з хаты роднае прагнаў.*
*Не меў хто супу старому зварыць!*
*Дзед галодны на печы сядзіць!*

### Дзве Ані

*Былі сабе дзве падобныя Ані,*
*Вельмі лянівыя маладыя пані.*
*Яны заўсёды разам хадзілі*
*І таксама разам усё рабілі.*
*Восенню ў лесе грыбы збіралі*
*І жоўтае лісце з дрэў абтрасалі.*
*А ўзімку было так,*
*Што яны любілі доўга спаць.*
*Толькі разам у снежкі гулялі*
*І на прахожых снегам кідалі.*
*Потым шакалад з малаком пілі*
*І на санках ездзілі.*
*Вясной яны пасварыліся,*
*Абгаварылі сябе і... пабіліся.*
*Летам на сонцы разам не загаралі*
*І над рэчкай ужо не шпацыравалі.*
*З той пары мамам не дапамагаюць*
*І сяброў новых не здабываюць.*
*І так мінула дзесяць гадоў,*
*А яны не ходзяць ні да сябе,*
*ні да сяброў.*

# Фінал „Беларускай песні”

Бельскі дом культуры нядаўна прымаў самых лепшых маладых спевакоў з усяго ваяводства. Кожны, хто любіць і ведае беларускія песні, мог прыняць удзел у вакальным конкурсе. На працягу апошняга месяца ў розных кутках Падляшша дзеці прымалі ўдзел у раённых элімінацыях. Зразумела, што Дом культуры ў Бельску быў перапоўнены самымі цікавейшымі галасамі, якія перамаглі на раённых адборах. На сцэне можна было спяваць сола, у дуэце, а нават у калектыве. Такой магчымасцю пакарысталіся дзеткі з Непублічнай пачатковай школы імя Кірылы і Мяфодзія з Беластока. Малады гурт „Ортпаўэр” спяваў такія вядомыя кожнаму беларусу песні як „Малітва”, ці „Гора за гарой”. Вучні адкрыта прызнаюцца да таго, што лягчэй спяваць, маючы блізка сябе сябра з аднаго класа, а нават парты. Патрык Місяюк апрача таго, што спяваў, таксама іграў на гітары.

Варта дадаць, што самымі любімымі гуртамі Патрыка з'яўляюцца „Ляпіс Трубяцкой” і „Н.Р.М.”. Сцэнічныя здольнасці, якія ён набывае ў конкурсах, напэўна дапамогуць здзейсніць яго мары. Менавіта ў будучыні ён хоча выступаць у месцы, дзе спявалі яго рок-героі, а менавіта ў гарадоцкім Барыку на фестывалі „Басовішча”.




— Цяжка ўсё гэта спалучыць. Мне трэба памятаць, калі я ўваходжу з гітарай у час песні. Трэба памятаць аб гэтым, каб не заблудзіўся рытм.

Цешымся, што хаця гэта быў ужо фінал конкурсу „Беларуская песня”, вашыя музычныя амбіцыі прагрэсіруюць.

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**

# Музыка з кайфам

## Before Basowiszcza




Фестываль „Басовішча” яшчэ наперадзе, бо адбудзецца 18-20 ліпеня 2013 г., але можна сказаць, што ўжо афіцыйна пачаўся. Ужо некалькі гадоў беларускія студэнты запрашаюць на канцэрт, якога назва па-беларуску можа гучаць звычайна: „Перад Басовішчам” ці нават „Да Басовішча”. Гісторыя гэтай падзеі звязана перш за ўсё са зменамі, у якія ўвайшоў фестываль некалькі гадоў таму. Па-першае, абнавіў свой графічны выгляд, дзякуючы чаму здаецца кіраваць сігналы да малодшага пакалення, якое зараз займае на фестывалі часцей месца сваіх бацькоў. „Before” — гэта таксама ідэя, якая здаўна дзесьці круцілася ў галовах арганізатараў, бо і ёсць патрэба, каб беластачанам усё часцей нагадваць пра фестываль, які павінен застацца візіткай падляшскіх беларусаў.

Такім чынам 7 чэрвеня ў Garage Land на вуліцы Вэнглёвай у Беластоку, дзе зараз працуе Пагранічны цэнтр культуры Вэнглёва 8/10, прайшоў сёлетні „Біфор”. У час мерапрыемства выступілі госці, у тым ліку і дэбютанты. Пачнем з гэтых другіх. За выступ на галоўнай сцэне сёлетняга „Басовішча” змагаліся тры гурты. „Bacsly” з Беластока, „Дэсант” з Гайнаўкі і „Orshak” з Міхалова, якіх арганізатары запрасілі на аснове дасланых заявак. Вельмі цешыла, што зацікаўленне прыйшло з розных раёнаў, бо і гэта сведчыць, што „Басовішча” — фестываль, які жыве сярод публікі і музыкаў.

Рашэннем арганізатараў фестывалю на „Басовішчы” зайграе „Orshak”. Напэўна без праблем гурт даедзе, бо з Міхалова ў Гарадок толькі 7 кіламетраў.

Аднак сабраная ў канцэртным гаражы публіка цярпліва чакала зорак вечара. На пачатак выступіў беластоцкі, але ўжо даволі вядомы ў Польшчы гурт „Sami Muzycy”, які грае якасна і цікава. Хто аднак вытрымаў да канца, таго сустрэла сапраўдная асалода. Спецыяльна з гэтай нагоды ў Беласток прыехаў добра вядомы ўсім прыхільнікам „Басовішча” гурт :B:N:. Бярозаўскія музыкі гэта не толькі легенда правінцыйнага беларускага горада (з багатым мінулым, дарэчы), але таксама фактар, які дапамог паказаць маладым людзям, што варта займацца музыкай і пісаць тэксты на беларускай мове. Такім акцэнтам завяршыўся беластоцкі „Before Basowiszcza”. Сапраўдны безлічы ўражанняў трэба чакаць, безумоўна, у ліпені.

i_basovka@o2.pl

# Загадка (№25)

Разгадайце загадку, адказы дашліце ў «Зорку» да 7 ліпеня, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Спусціліся ў лясок  
І селі ў верасок  
Улетку зоркі-знічкі,  
А іх завуць....  
Міхась Пазнякоў

Адказ на конкурс-загадку № 20-13: Дзяцел. Узнагароды — запісныя кніжкі — выйгралі **Лукаш Аляйніцкі** і **Крысцяян Яцко** з Арэшкава. Віншуем!

Мая РАДЗІВАНЮК

# Школа

**Нашу школу ўсе знаюць  
і з ахвотай у яе заглядаюць.  
Там мы вучымся, гуляем  
і многа сяброў маем  
ды ўрокі ахвотна вывучаем.  
Настаўнікі нас вітаюць  
і часта з намі размаўляюць.  
Ах як добра ў нашай школе! —  
Кожнае з дзетак гэта знае  
і ўрокі з ахвотай вывучае.**

# Польска-беларуская крыжаванка № 25

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 21:**

Парог, маштаб, рад, сага, Лоша, род, віза, хутар, запрашэнне, кут, краса, акно. Аналіз, доза, Ом, шапка, гара, рус, хата, Ас, тэма, баран, горн, клад.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Аня Банькоўская** з Нараўкі, **Юлія Скарбіловіч** з Бельска-Падляшскага, **Малгажата Галёнка** з Арэшкава, **Якуб Казімярук** з Нова Корніна, **Караліна Шчасновіч**, **Агнешка Варановіч**, **Каміль Суровец** з Бабікаў. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Tabaka / Kora | Mors | | Ńóż | |
| Toast | Szanowny Pan / Ukłon | | | | | | | Data |
| Upał / Żaba | | | | | Rod | | | |
| | | | | | | | | |
| Podróż / Dar | | | | | | | | |
| | | | Rzeka | Lato | | | | |

Анна ІВАНЮК

# „ЖАВАРАНАКІ” ў еўрапейскай сталіцы

**З 17 па 21 сакавіка 2013 года адбылася паездка калектыву „Жаваранакі” з Махнатага ў еўрапейскую сталіцу — Брусель. Падарожжа даволі цяжкое — 24 гадзіны ў аўтобусе. Аднак гэтая даўгаватая язда мела і значныя карысці. Мы маглі больш зінтэгравацца з цэлай групай падарожнікаў, а было нас 47 чалавек і дадаткова 2 шафёраў. Апрача нас у склад дэлегацыі ўваходзілі нашыя „сёстры”— „Нараўчанкі”, калектыў „Чыжавяне”, войт Гайнаўскай гміны Вольга Рыгаровіч, маці хрышчоная калектыву „Жаваранкі” сп. Л. Галёнка, дырэктар Лясного тэхнікума ў Белавежы, журналіст Польскага Радыё Беласток, прадстаўнік Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы сп. Каця Бяляўская і члены сялянскай партыі ПСЛ. Усе цудоўныя людзі, як сям’я.**



Фота Пятра СКЕПКІ

Падарожжа не так цяжкое і таму, што мы мелі аўтобус высокага стандарту, а дасканалыя спецыялісты-шафёры рабілі перапынкі кожныя 2 гадзіны, каб апдачылі нашы ногі і каб мы ўзмоцніліся на свежым паветры.

Быў таксама час, каб дакладней прыглядзецца навокал. Вартыя захаплення дарогі-аўтастрады Нямеччыны, Галандыі і Бельгіі, без ніякіх аплат, і роўненькія як шкло. Аўтобус, здаецца, сунецца, а не едзе.

Надвор’е таксама спрыяла. Было сонечна, намнога цяплей чым у Польшчы. Кругом раўнінны краявід, у свежай, сакавітай, зялёнай траве, пераплецены поўнымі вады каналамі і мноствам высачэзных ветракоў для выпрацоўкі электрычнай энергіі. Паблізу аўтастрад мала бачных мясцовасцей, недзе ўдалечыні адзінокія фермерскія будынкі і не так ужо вельмі надзвычайныя.

Адолеўшы больш за 1600 кіламетраў, апынуліся мы ў Бруселі і расквартараваліся ў гасцініцы „Мангатан”. Там сустрэў нас і заняўся намі працаўнік Еўрасаюза.

Пасля кароткага адпачынку адправіліся мы пяшком на абеда-вячэру ў грэцкі рэстаран. Па дарозе захапляліся рынкам старога горада і іншымі цікавымі месцамі.

Пасля падсілкавання многія нашыя падарожнікі не перапынілі наведвання горада. І тут пэўнае здзіўленне: у адрозненне ад польскіх вялікіх гарадоў, Брусель вельмі мала асветлены вечарам, затое многа шпацыруючых людзей, асабліва моладзі.

Першая ночка ў чужой старонцы прабегла як хвіліна, але адпачылі цудоўна і ўжо з пэўнай бадзёрасцю прыступілі да рэалізацыі напружанага плана. Хуценька паснедалі ў вялікай зале гасцініцы і паехалі ў Еўрапарламент. Пры ўваходзе была вельмі дакладная праверка, усё прасветлена. Пасля спатканне з працаўніком Еўрасаюза, якія расказаў пра напрамкі працы і сэнс існавання такой цэнтральнай установы Еўропы. Нас цікавіў перш за ўсё польскі ўклад у дзейнасць ЕС, у якім працуюць 51 дэпутат і 300 працаўнікоў з Польшчы. Агульна Еўрапарламент аб’ядноўвае паўмільярда чалавек з 27 краін. Іх прадстаўляюць 754 парламентарыяў, якія карыстаюцца 23 мовамі, аднак працоўнымі мовамі з’яўляюцца французская, нямецкая і англійская.

Пасля цікавага даклада нам паказалі найстарэйшы комплекс будынкаў, а потым яшчэ два, пераход у якія магчымы толькі на трэцім паверсе. Пад злучэннем гэтага комплекса знаходзіцца вуліца, цесна запоўненая машынамі і пешаходамі.

Неўзабаве і 11 гадзіна, на якую запланавана сустрэча з галоўным героем нашай паездкі — еўрадэпутатам Яраславам Каліноўскім. Спатканне адбылося ў вялікай круглай зале пасяджэнняў. Навокал сталы з мікрафонамі, за імі выгадныя крэслы, у якіх мы прыселі. Пунктуальна з’явіўся наш спонсар, узрадаваны, сімпатычны і пасля цёплага прывітання прыблізіў слухачам асабістую дзейнасць у Еўрапарламенце, а пасля адказваў на шматлікія пытанні з нашага боку, між іншым адносна Белавежскай пушчы, сельскай гаспадаркі і г.д.

Потым адбыўся абмен падарункамі, кароценькі канцэрт „Жаваранкаў” і „Нараўчанак”, затым дэгустацыя беларускіх прысмакаў: каравая, піроэнага, вяндлін і т.п. Пазней спатканне працягвалася ў холе, таму што ў зале, дзе мы былі спачатку, праводзілася ўжо наступнае пасяджэнне. Сцэнарый атрымаўся непаўторны, бо ў гэтым „адкрытым” месцы нашыя касцюмы, спевы, яда ўзбудзілі нечаканае зацікаўленне, выклікалі небывалы фурор.

Каля 14 гадзіны — абед у Еўрапарламенце (штодзённа выдаюць там больш за 600 абедаў), пасля наведванне горада з праваднікам, а ўвянчэннем дня быў прыём на акраіне Бруселя.

Да ўсеагульнай радасці прычынілася і тое, што еўрадэпутат Яраслаў Каліноўскі прыбыў на спатканне ў народнай беларускай вопратцы, якую атрымаў у падарунку ад „Жаваранкаў”. Гэты вечар назаўсёды застанецца ў памяці.

Апошні дзень у Бельгіі прайшоў таксама вельмі прыемна, хаця пагоршылася надвор’е. Мы мелі магчымасць яшчэ дакладней наведаць Брусель, а таксама Остэндэ на беразе Паўночнага мора і старажытны горад Бруге. Праваднiца, надзвычай адукаваная жанчына, выдатна прыблізіла нам як гісторыю гэтых гарадоў, так і бельгійскай дзяржавы.

Бельгія ганарыцца сваім багаццем. Сапраўды грамадская маёмасць і дабрабыт насельніцтва — вялікія, але вынікае гэта з таго, што бельгійцы — вельмі разумны, ашчадны і працавіты народ. На паркінгах мы бачылі тысячы веласіпедаў, якімі даязджаюць яны на працу. Надта добра выкарыстаная дзяржаўная чыгунка для транспарту тавараў і пасажыраў. Усё гэта ім аплачваецца. Прыкладам працавітасці з’яўляецца і Каралеўскі двор. Кароль кожны дзень восем гадзін на працы — праводзіць спатканні з урадам, паслямі і г.д. Каралева ездзіць на просценькай, скромнай машыне, не праяўляе ніякіх капрызаў, бо гэта не гонар.

Многаму можна ў іх навучыцца, але мы затое можам пахваліцца большай чысцінёй гарадоў.

Пад вечар, з мноствам пазітыўных уражанняў мы вярталіся дадому. Пасля 24 гадзін язды першым пакідаў аўтобус у Бельску-Падляшскім журналіст Беластоцкага радыё. Але раней, чым ён высадзіўся, увайшоў спадар Мікалай Яноўскі і прывітаў нас са шчаслівым вяртаннем. Вельмі сардэчна падзякаваў за тое, што мы так цудоўна паказалі ў Еўрапарламенце нашую Малую Айчыну. Пра гэтае здарэнне ведае Варшава і многа хто ў Польшчы. Сказаў, што тэлефанаваў яму еўрадэпутат Яраслаў Каліноўскі, каб выказаць удзячнасць за запрашэнне ў Махнатае на хрысціны калектыву „Жаваранкі”, дзякуючы чаму мог ён пазнаёміцца з непаўторнымі людзьмі, якія ў цэнтр Еўрасаюза ўнеслі многа цяпла, харастве і каларыту. На еўрапейскім форуме паказалі сваю родную, багатую культуру, незвычайную спадчыну, выклікалі зацікаўленне шматлікіх еўрапаслоў і соцень экскурсантаў з усяго свету, якія ў той дзень знаходзіліся ў гмаху Еўрапарламента.

Спадар Мікола Яноўскі быў узрушаны гаворачы да нас, а і мы так моцна былі ўсхваляваны ягонай прамовай, што ў гэты момант нават ніхто не адважыўся ўзяць мікрафон і падзякаваць сп. Мікалаю, бо гэтага ж яго заслуга, што нас спаткала такое небывалае вылучэнне. Бацька хрышчоны калектыву „Жаваранкі” аказаўся надзвычай шчодрым, а мы, як дзеці, крыху пагубіліся, але ў сэрцы назаўсёды застанецца гэты падарунак. Шчыра дзякуем!

У мяне гэтая паездка крыху змяніла погляд на палітыкаў. Праз дзесяткі гадоў, актыўна дзейнічаючы ў Беларускім грамадска-культурным таварыстве ў Гданьску, мне прыходзілася часта спатыкацца з палітыкамі розных лагераў, ад левых да крайне правых, і ўсе яны на словах былі вельмі шчодрымі для нацыянальных меншасцей, многа чаго абяцалі, але нічога насамрэч не рабілі. Адзін толькі раз, без ніякіх абяцанак, старшыня гарадской рады Гданьска спадар Фердынанд Мацкевіч прызначыў памяшканне для Аддзела БГКТ па вул. Доўгі Тарг 8/10, насупраць помніка Нептуну. Гэтага памяшкання патрабавала каля дзесяці дзяржаўных установ, але атрымалі яго беларусы. Аказалася аднак, што гэты высокаадукаваны сімпатычны чалавек меў беларускія карані. Ах як цудоўна дэкламаваў ён абшырныя ўрыўкі „Новай зямлі”.

І вось ад таго часу мінула некалькі дзесяткаў гадоў і зноў трапіўся нам палітык — спадар Яраслаў Каліноўскі, які паабяцаў запрасіць у Брусель і стрымаў слова. Гэта небывалае, а можа і гэты палітык мае ўсходнія карані, або меў праваслаўных продкаў.

З гэтай паездкі можна таксама зрабіць і наступную выснову. Беларусы не павінны мець ніякіх комплексаў непаўнацэннасці, а наадварот, ганарыцца сваёй непаўторнай спадчынай. Яе можна паказваць не толькі ў цэнтры Заходняй Еўропы (Брусель якраз там знаходзіцца), але і ў цэлым свеце і будзе яна выклікаць захапленне.

З пашанай падыходзілі да нас паслы, працаўнікі Еўрапейскага Саюза і экскурсанты, каб зрабіць здымкі, паслухаць, крыху пагутарыць, даведацца хто мы і адкуль. Я з задавальненнем адказвала, што мы — беларусы з Польшчы.

І трэці вывад такі: мы жывем у складаны час. Так інтэнсіўна праходзіць уніфікацыя і цэнтралізацыя, што беларусам нельга траціць час. Трэба ратаваць усё роднае і дарагое ад забыцця. Неўзабаве адыдуць нашыя бабулі, дзядулі, бацькі — крыніцы роднай культуры і тады будзем збяднелыя. Апошні званок, каб вывучыць сваю спадчыну і пераказаць наступным пакаленням.

Застаецца жадаць, каб такіх энтузіястаў, як „Жаваранкі” з Махнатага, усё прыбывала дзеля захавання і развіцця народнай беларускай культуры.

**Чалавек з часу сваіх касмічных вытокаў жыве ў цені прываблівага дрэва пазнання дабра і зла, пад пастаяннай прагай цікавасці, пераадолення назначаных яму законамі прыроды небяспечных межаў. Свае мары выказвае ў міфах — ці то пра вавілонскую вежу, ці пра Ікара... Ікарава мара пра палёт стала здзяйсняцца сто дзесяць гадоў таму, калі братам Райт удалося паспяхова пераадолець законы зямнога прыцягнення; так адвечная мара стала быллю, але надалей яна захапляе і вабіць увысь чарговыя чалавечыя пакаленні.**



Тамара Полех у вяночку сваіх ліпецкіх сямейнікаў. Ад ейнай правай рукі: бацька, маці, сястра, бацькава сястра, муж Міхал Полех

# Лёс спрадзены з мараў

Гэтая мара з асаблівай заўзятасцю ўкаранілася, увілася ў гены сям'і Полехаў. Пачынальнікам незвычайнага сямейнага палёту быў генерал Міхал Полех, родам з Адногі, што ў Міхалоўскай гміне, пра якога на нашых старонках дзевяць гадоў таму быў пісаў Віктар Бура. 5 ліпеня міне чатырнаццаць гадоў ад ягонага вылету ў лепшы свет...

— Як Вы пазнаёміліся з будучым мужам? — пытаю Тамару Полех, удаву па генерале.

— Ён быў на курсах у Ліпецку ў 1955 годзе, і там я з ім пазнаёмілася. Годам пазней выйшла я за яго замуж і з таго ж года я жыву ў Польшчы.

— А як завязалася тая знаёмасць?

— На забаве ў ваеннай часці. Я жыла на тэрыторыі часці, бо мой тата быў вайсковым.

— Быў пілотам?

— Не. Ён працаваў у тэхнічным наглядзе за самалётамі. Ён быў маім айчымам. Тата мой загінуў у 1941 годзе на фронце.

— Ці вядома дзе?

— Не; не ўдалося гэтага даведацца.

— Ці ў 1955 годзе, калі Вы пазнаёміліся з будучым мужам, Вы ўжо працавалі?

— Не. Я сама завяршыла сярэдняе медыцынскае вучылішча і ўжо атрымала працоўную пуцёўку у Дагестан. Перада мною быў выбар і я выбрала Польшчу.

— Калі Вы выходзілі замуж за лётчыка, то мо Вы і прыляцелі самалётам на новае сваё месца?

— Так. У Маскву, у якую з Ліпецка васемсот кіламетраў, мы паляцелі самалётам, там я афарміла дакументы, з якімі атрымалася зацяжка. Муж паехаў, а я два дні пазней з Масквы ў Варшаву падалася ўжо поездам.

— А дзе вы бралі шлюб?

— У Ліпецку.

— Дзе тады служыў муж?

— У Варшаве, на Бэмове. Неўзабаве мужа перавялі ў Сахачэў, пяцьдзесят кіламетраў за Варшавай.

— А дзе нарадзіліся вашы дзеці?

— У Варшаве — мы жылі ў Сахачэве, а дзеці радзіліся ў Варшаве.

— То яны варшавякі?

— Так; муж заўсёды смяяўся, што ён народжаны ў вёсцы Аднога, а дзеці ў Варшаве.

— А Вы самі нарадзіліся дзе?

— Я нарадзілася ў невялікай мясцовасці недалёка Самары, тадышняга Куйбышава. Але ў канцы 1942 года, калі мама выйшла замуж, часць, у якой служыў яе новы муж, перанеслі ў Ліпецк; тры месяцы ехалі эшалонам. І я з таго часу жыла ўжо толькі ў Ліпецку.

— Як выглядала Ваша першае знаёмства з мужавымі бацькамі?

— Я вельмі хвалявалася.

— А чым вы прыехалі ў Адногу?

— Матацыклам, „Явай".

— З Варшавы?

— З Варшавы.

— Незвычайнае гэта было падарожжа!

— А так: восень, холад.

— А як успрынялі Вас мужавы бацькі?

— Са здзіўленнем. Сын жа быў далёка і раптам адтуль вязе жонку; мабыць, не спадзяваліся яны такога ходу падзей. А пасля ўсё ўладзілася.

— Якое было Ваша ўражанне, калі Вы пабачылі Адногу — мясцовасць, у якой вырас Ваш муж?

— Даволі дзіўнае; я ж прыехала з адносна вялікага абласнога горада. Цяпер ужо тая вёска іншая — пабудаваны дарогі, пракладзены водаправод...

— З Варшавы Ваша сям'я перабралася ў Сахачэў; а далей?

— З Сахачэва мы перабраліся ў Свідвін, а са Свідвіна ў Познань.

— Са Свідвіна недалёка да мора. Часта вы бывалі над морам?

— Мо два-тры разы. Бо муж увесь час быў заняты.

— Вы выдатна размаўляеце па-польску, у Вашай гаворцы не чуваць слядоў расійскай фанетыкі...

— Я, едучы ў Польшчу не ведала польскай мовы, але тут я стала многа чытаць: па літарцы-другой, і так пайшло.

— Ваш муж мала бываў дома, але ўсё ж такі нейкае кампанейскае жыццё Вы вялі, спатыкаліся з людзьмі...

— Так, з суседзямі. Але цяжка мне было; на рускіх глядзелі праз чорныя акуляры. Лягчэй мне стала тут, у Белавежы, дзе гэта нікому вачэй не рэжа. Маю тут невялічкую



Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

Фрагмент стальніцы Тамары Полех

кампанію. Рэдка з імі спатыкаюся. Па сутнасці я ўвесь час сама. Маю найважнейшую кампанію складае сям'я...

Акурат раздаўся тэлефонны званок, пазваніў малодшы сын. Спадарыня Тамара запрапанавала і мне паразмаўляць з ім.

— На якіх баявых самалётах Вы лёталі?

— У авіяцыйнай школе я лятаў на вучэбных „Іскрах", а пасля школы стаў на службу ў авіяцыйны спецполк у Варшаве...

— Пра які было голасна тры гады таму...

— Празмерна голасна.

— Вы вазілі прэзідэнтаў?

— Так — Ярузельскага, Валэнсу і Квасьнеўскага.

— А Качынскага?

— Не. Адзінаццаць гадоў таму я пакінуў страявую службу і стаў на працу ў авіякампанію LOT.

— На якіх машынах і як далёка лятаеце?

— На „Эмбраерах" у радыусе трох тысяч кіламетраў ад Варшавы.

— Чаго трэба жадаць лётчыку?

— Каб было столькі пасадак, што і ўзлётаў.

— Гэтага Вам і жадаю.

Вяртаюся да размовы са спадарыняй Тамарай:

— У 1958 годзе нарадзіўся старэйшы сын Андрэй, які таксама, як раней муж, закончыў авіяшколу ў Дэмбліне, а пазней Акадэмію імя Гагарына ў Маскве. А малодшы сын Павел у Маскве наведваў дзіцячы садок, калі мы там жылі ў час вучобы мужа. Старэйшы сын у войску лятаў на машынах Сухога, цяпер ён таксама цывільны, але водзіць самалёты ў фірме, якая займаецца, бадай, геафізічнай разведкай.

— Вы сказалі, што ў мужа не было часу ездзіць на мора; але ж нейкія водпускі ён меў?..

— Не было ў яго водпускаў. Калі і браў тыдзень-два водпуску, то мусіў аставацца пад тэлефонам. Да таго ж у мужа было хобі — паляўніцтва. І той невялічкі водпуск ён сядзеў у лесе.

— Значыць — ён увесь час лятаў: то на службу, то ў лес. А з Вамі сустракаўся па начах, патаемна. Ваша сям'я дзейнічала паводле традыцыйнай мадэлі: муж зарабляў грошы, а Вы займаліся ўсімі хатнімі справамі. А што муж прывозіў з паляванняў?

— Нічога, бо я не любіла займацца трафеямі. Ну, часам зайчыка прывозіў. Часам качку, фазана.

— А хто таго зайца разбіраў?

— Заўсёды муж.

— Вашы сыны пайшлі ў авіяцыю, па бацьку. Ці яны разважалі іншыя магчымасці?

— Я заўсёды была супраць, і муж быў супраць іх лятанню. Але яны пра гэта марылі. Старэйшы сын нават у авіяліцэі ў Дэмбліне вучыўся. А малодшы сын закончыў сельскагаспадарчы тэхнікум і рыхтаваўся да экзамену ў сельскагаспадарчую акадэмію. Але яго цягнула ў палёт; ён без нашага ведама падаў дакументы ў Дэмблін і быў туды прыняты.

— У Познані, вялікім горадзе, Вы сябе добра адчувалі. Але чаму ваша сям'я пакінула Познань?

— Калі памяняўся ў Польшчы грамадскі строй, наступіла таксама рэарганізацыя вайсковай авіяцыі. Муж хацеў адразу выйсці на пенсію, але яго не пусцілі, прапануючы пасаду шэфа Ваяводскага вайсковага штаба ў Беластоку. Тут ён праслужыў год і падаў у адстаўку. Я не хачу гаварыць пра прычыны ягонай адмовы ад далейшай службы. Мы вярнуліся ў Познань. Але муж не любіў вялікіх гарадоў і ён тут, у Белавежы, дзе мы часам наведвалі знаёмых, знайшоў дом у сырым стане. Мы яго купілі і завяршылі. Муж быў задаволены і шчаслівы, што ён тут, на сваёй зямлі, сярод сваіх, навокал лес — жыць і не ўміраць! Але, на жаль — толькі тры гады...

— Ваш муж жыў вельмі інтэнсіўным жыццём. Ці выхад на пенсію не быў для яго празмерна вялікім, небяспечным для пажылых людзей шокам?

— Быў, ён моцна перажываў гэта. Але ён увесь час быў у руху, быў непаседам. А гэта вымотвала сілы. Ён быў мне сказаў, што ўладкаванне дому ў Белавежы забрала яму з дзесяць гадоў жыцця.

— Але калі Вы сюды перасяліліся, то і руху не стала.

— Нічога падобнага! Паляванні... Муж быў радным. А прысядзібны агарод — ён увесь час нешта папраўляў, перакопваў. Ён ні на хвіліну не прысеў.

— Вярнуся да Вашых сыноў: дзе яны служылі, ці далёка ад вас?

— Малодшы сын Павел адразу пасля школы трапіў у Варшаву. Старэйшы сын служыў у Свідвіне, пасля ў Піле і ў Познані, а цяпер жыве каля Варшавы.

— Часта Вас наведваюць?

— Абодва прынамсі раз у месяц.

— Маеце таксама ўнукаў...

— Мала таго — ёсць і праўнукі. Старэйшы сын старэйшага сына таксама закончыў авіяшколу ў Дэмбліне. Там пазнаў сваю жонку, якая таксама там вучылася; у іх сынок — мой праўнук. Жывуць у Вжэсні, абое лятаюць на транспартных самалётах. Унукава жонка абучалася вадзіць баявыя машыны „F-16", але гэта зацяжкая задача для жанчыны і яна перасела на транспартныя самалёты. Малодшы сын старэйшага сына таксама працуе ў авіяцыі, але ў складзе наземнага персаналу, у Варшаве.

— У Вашага старэйшага сына двух сыноў...

— А ў малодшага двое дзяцей. Старшая дачка вучыцца ў Дэмбліне ў авіяшколе — таксама будзе пілотам. І яшчэ ў яго малодшы сын, якому пакуль адзінаццаць гадоў...

— Значыць Вашы нашчадкі, як валокны ў нітку, прадуць своеасаблівы сямейны ген, закладваюць адмысловы від атавізму, які цягне іх у прастору.

— Але мне, як жонцы, маці і бабулі — гэта няспыннае хваляванне, трывога за іх. Калі яны куды вылятаюць, я прашу, каб пасля прызямлення пазванілі мне; вось жа сын званіў, бо аднекуль вярнуўся. І тое хваляванне недзе складваецца і пакідае свой след на здароўі.

Бо ж лёсы міфалагічных герояў Ікара і Антэя ўзяты з жыцця, з іх гравітацыйнай прывязі да зямлі. І трывога спадарыні Тамары з тае прывязі выводзіцца. І пакорлівасць перад лёсам, сямейная ціхмянасць. Падкрэсліваў гэта яе муж, генерал Міхал Полех, гаворачы, што ягоны высокі службовы і грамадскі палёт быў магчымы дзякуючы ейнай сціпласці: „Я мог прысвяціць сябе службе, ведаючы, што дома ўсё будзе належна зладжана".

Сужонства Полехаў дома займалася не толькі прозай жыцця. Размаўляў я са спадарыняй Тамарай за незвычайным сталом, якога адмысловую стальніцу выканала яна з абрэзкаў аленевых рагоў. З гэтых жа паляўнічых трафеяў спадар Міхал сканструяваў некаторыя адмысловыя элементы мэблевага дэкору...

Слоў пару пра адыход генерала са службы, які выяўляе важны штрых ягонага характару. Паколькі спадарыня Тамара не хацела пра гэта выказваць адкрыта, таму я пакарыстаюся іншасказальным абыходам: у час грамадскіх перамен паяўляюцца новыя дон Кіхоты, сядлаючы траянскага Расінанта, напоўненага старым злом; тым злом, пра якое наш тутэйшы „глас вопиющего въ пустыне". Таму спадар Полех адмовіўся ад тагачаснай афіцыйнай пасады, дзе ад яго патрабавалі прыкрываць тое зло фігавым лісткам крывадушнасці. Светлая Яму памяць.

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# У „Нашым гняздзе”

Фанаты гісторыі і культуры малых айчын з’ехаліся ў Шудзялава, каб прыняць удзел у падвядзенні вынікаў Ваяводскага гістарычна-літаратурнага конкурсу па гісторыі рэгіёна „Нашае гняздо”. Ужо дзевяты раз Гмінны асяродак анімацыі культуры і рэкрэацыі ў Шудзялаве супольна са старшынёй конкурснага журы Барбарай Пахольскай з Беластока папулярызавалі любоў і пашану да роднай спадчыны. Журы пазнаёмілася з цікавымі гістарычнымі запісамі і легендамі, запісанымі дзяцьмі і дарослымі ў розных кутках нашага ваяводства. Дваццаць восем індывідуальных і калектыўных прац прыняло ўдзел у сёлетнім выпуску конкурсу. Былі дэбютанты, але не бракавала і пастаянных сімпатыкаў, стваральнікаў асаблівага, амаль сямейнага, конкурснага гнязда. Сярод наймалодшых школьнікаў першынствавалі Матэвуш Чарэмха і Магдалена Галіч з Шудзялава з запісамі ўспамінаў дзяцінства сваіх дзядоў. У лік узнагароджаных прадстаўнікоў старэйшых класаў увайшлі Лідзія Свяніцкая са школы ў Дуброве-Мачыдлах, Вераніка Гац з Мня і Каміля Альховік з Шудзялава. У конкурсе ўдзельнічала таксама вучаніца шудзялаўскага беларускага кружка, чацвёртакласніца Наталька Гарчак. У сваім эсэ пра гісторыю роднай вёскі пакарысталася яна, у асноўным, ведамі свайго бацькі Хрыстафора — захопленага краязнаўцы. Гімназістка Анна Ястшэмбец-Свяніцкая з Карыціна атрымала вылучэнне за прэзентацыю цікавых фактаў пра членаў сваёй сям’і, якія ўпісаліся ў гісторыю Польшчы. Яе сяброўка Дамініка Глэмбоцкая прадставіла ваенны лёс прадзеда Фларыяна. Магілу невядомага жаўнера на парафіяльным могільніку ў Мінкоўцах апісала шудзялаўская гімназістка Анна Стасевіч. Сярод узнагароджаных работ у катэгорыі дарослых апынуліся, між іншым, радаслоўная Ярослава Усакевіча з Браньска і школьныя ўспаміны Марыяна Бізюка з Саколкі. Юлія Скепка, беластачанка родам з Бандароў — лаўрэатка першай узнагароды — даслала на конкурс фрагмент сваёй сямейнай хронікі. Уласны погляд на сям’ю, малую айчыну і шматкультурнасць прадставіла яна там словамі Юліты Неплах з Міхалова: „Наша шматкультурнасць гэта адкрытыя аканіцы хаты, пахучай хлебам, гэта хатнія вяндліны, пладовыя прадукты, разьба па дрэве і метале, майстэрства вышыўкі. Гэта абраз Божай Маці і святога Мікалая. Шматкультурнасць гэта таксама дыпламатычнае пагадненне і супрацоўніцтва з заграніцай, гэта прыгожыя, сучасныя будоўлі публічнага карыстання, гэта захоўванне памяці пра беларускую традыцыю, экуменія і пошукі гісторыі”.





Узнагароджванне наймалодшых лаўрэатаў

Пенсіянер з Карыціна Зыгмунт Нетупскі звязаны з конкурсам некалькі гадоў. Да ўдзелу заахвоціла яго выдатная настаўніца шудзялаўскай школы, філолаг Барбара Чарэмха. Цяпер ён прыязджае сюды са сваімі ўнучкамі, таксама любіцелькамі роднай спадчыны. Спадар Зыгмунт перадае свае думкі і веды ў асноўным у паэтычнай форме. Частка яго тварчасці прысвечана карыцінскаму цуду — з’яўленню Карыцінскай Божай Маці, але піша ён таксама пра звычайнае жыццё калісь і сёння. У Шудзялава спадар Нетупскі прывёз свой першы зборнік паэзіі „Мой свет — Карыцін”. Цяпер працуе ён над новай кніжкай, прысвечанай выключна рэлігійным разважанням.

Удзельнікі ўрачыстай сустрэчы на чале з віцэ-маршалкам падляшскага ваяводства Мечыславам Казімерам Башко пазнаёміліся таксама з арыгінальнымі малюнкамі і дакументальным фільмам пра жыццё і творчасць іх аўтара — сакольскага мастака Хрыстафора Геніюша. Апрача таго ім быў сарганізаваны музычны перапынак у выкананні беластоцкіх поп-музыкаў — дуэта „Дзве гітары”.

Больш за тры сотні работ налічвае сёння архіў „Нашага гнязда”. Мара арганізатараў — выдаць зборнік з самымі цікавымі фрагментамі конкурсных запісаў. Будзе гэта спецыяльнае, юбілейнае выданне. На думку спадарыні Пахольскай, кніжка стане іскрай, ад якой загарацца душы чарговых даследчыкаў беспаваротнага мінулага.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**




Нешта дзіўнае адбываецца ў Беларусі з беларускай мовай. З аднаго боку яе ўжо даўно практычна немагчыма пачуць, а другога — невядома з чаго з’яўляюцца на вуліцах нейкія білборды, з якіх розныя людзі распавядаюць пра сваё першае слова на беларускай мове, альбо прапануецца адчуць „яе смак”. З аднаго боку мясцовыя ўлады там-сям абвяшчаюць пра ініцыятыву аб большым выкарыстанні беларускай мовы, а з другога — нічога ў тым накірунку і не робіцца. Таму на пытанне ці жывее яшчэ беларуская мова, адказаць цяжка. Але найбольш трапны адказ на такое пытанне даюць аўтары сацыяльнай рэкламы, якая нядаўна з’явілася ў інтэрнэце. З яе вынікае, што беларуская мова падобная на чалавека-зомбі — не жывая і не мёртвая.

Калі цікаўны карыстальнік зазірне на сайт http://admova.by, то ўбачыць перад сабой відэаролік „Куды знікла прыгажосць?” аб спачатку квітнеючай, а потым забытай мове-дзяўчыне, якая ператвараецца ў зомбі. Пад ролікам месціцца вялікі надпіс „Чытай па-беларуску”.

„ЮНЕСКА афіцыйна прызнае беларускую мову нестабільнай. Па дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта РБ, на ёй размаўляе толькі 23% насельніцтва, і ў звычайным жыцці мы практычна роднай мовы не чуем. Наша мова паступова памірае, а мы проста гэтага не заўважаем. Размаўляць на рускай або на беларускай мове — выбар кожнага чалавека, але мы проста абавязаныя захаваць мову для нашых нашчадкаў. Не даць ёй знікнуць вельмі проста — чытайце па-беларуску”, — упэўнены стваральнікі сацыяльнага роліка, якія не ўлічылі, што для беларусаў прычынай не размаўляць на сваёй мове ёсць любая іншая мова — у Беларусі — руская, на Падляшшы — польская, на Віленшчыне — польская і літоўская і гэтак далей.

Пасля прагляду відэароліка з заклікам даць жыццё дзяўчыне-мове карыстальніку прапануецца своеасаблівая інтэрнэт-гульня. У ёй даецца слова, напісанае па-беларуску і па-руску, з адным і тым жа сэнсам. Калі вымавіш у мікрафон камп’ютара па-беларуску — дзяўчына з зомбі ператвараецца ў вясёлую прыгажуню, а калі па-руску — яна так і застаецца паміраючай істотай.

„Мы бачылі ў Беларусі вельмі многа сацыяльнай рэкламы, якая скіраваная на „адраджэнне мовы”. Але, на нашу думку, яна не працуе, бо з аднаго і таго ж боку імкнецца данесці „размаўляй па-беларуску” і ўсё. Таму вырашылі зрабіць нешта альтэрнатыўнае, каб яно зачапіла людзей і яны задумаліся”, — распавёў у каментары інфармацыйнаму сайту Onliner.by Максім Дзінман — генеральны дырэктар рэкламнага агенцтва „Aguru”, якое зрабіла відэаролік.

Паводле яго, зомбі абрана таму, што гэта істота, якая не памерла, але ўжо і не жывая. „Гэта тое, што цяпер, у прынцыпе, адбываецца з беларускай мовай — яна нібыта ёсць, але яе нібыта няма. Аналогія напрасілася сама па сабе”, — кажа Дзінман.

Згодна паведамленню, стваральнікі роліка плануюць прапанаваць яго для паказу па тэлебачанні, але пакуль не ведаюць, як там аднясуцца да параўнання беларускай мовы з чалавекам-зомбі.

Параўнанне, канешне, вельмі правакацыйнае, і таму яго, несумненна, чакае грамадскі рэзананс. Праўда, каб змяніць стаўленне беларусаў да сваёй мовы і ўласна сябе, патрэбны, відаць, не адзін дзесятак падобных правакацый.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара



Змагар за беларускую дзяржаўнасць

# 125 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Цвікевіча

22 чэрвеня 1888 (па іншых звестках 1883) года ў Брэсце нарадзіўся Аляксандр Цвікевіч, беларускі грамадска-палітычны дзеяч. Паходзіў ён з сям’і фельчара чыгуначнага шпіталя. У 1912 г. скончыў Пецярбургскі ўніверсітэт і да 1914 г. працаваў у Пружанах і Брэсце. З надыходам Першай сусветнай вайны ў бежанстве. Працаваў у Тульскім камітэце дапамогі ахвярам вайны. У 1917 г. у Маскве стаў адным з заснавальнікаў і кіраўнікоў Беларускай народнай грамады. Удзельнічаў у працы І Усебеларускага з’езда, быў абраны сакратаром прэзідыума, уваходзіў у склад Рады. У студзені 1918 г. Выканкам І Усебеларускага з’езда накіраваў Цвікевіча разам з Сымонам Рак-Міхайлоўскім на мірныя перамовы ў Брэст. Не атрымаўшы дазволу ўдзельнічаць у перамовах асобнай дэлегацыяй, яны былі змушаны ўвайсці ў дэлегацыю Украінскай Народнай Рэспублікі як дарадцы.

У канцы сакавіка 1918 г. быў накіраваны ў Кіеў у складзе надзвычайнай дыпламатычнай місіі. Цвікевіч вырашаў пытанні беларуска-ўкраінскай мяжы, дамагаўся прызнання адроджанай беларускай дзяржаўнасці і перагляду Брэсцкага міру, вёў перамовы з місіямі іншых дзяржаў. Пад яго кіраўніцтвам у Кіеве быў наладжаны выпуск газеты „Белорусское эхо”, арганізавана Беларуская гандлёвая палата. У ліпені таго ж года Цвікевіч увайшоў у склад кіраўнічых органаў Беларускай партыі сацыялістаў-федэралістаў.

Вясной 1919 г. урад БНР накіроўвае Цвікевіча ў Берлін, дзе ён павінен быў вырашаць фінансавае пытанне. Пасля адмовы германскіх улад выдаць грошы ездзіў у Вену, каб атрымаць частку з іх у аўстрыйскім банку. З 1921 г. па 1923 г. Цвікевіч займаў пасаду міністра замежных спраў ва ўрадзе БНР Вацлава Ластоўскага. Быў старшынём І Усебеларускай канферэнцыі ў Празе, якая адбывалася ў верасні 1921 г. У 1922 г. Цвікевіч разам з Ластоўскім зрабілі спробу ўключэння беларускага пытання ў парадак дня Генуэзскай канферэнцыі.

У 1923 г. у сувязі з нязгодай часткі беларускіх дзеячаў з палітыкай урада БНР Ластоўскага быў сфармаваны новы ўрад БНР ужо на чале з Цвікевічам. На ІІ Усебеларускай канферэнцыі ў Берліне ў 1925 г. пад уражаннем поспехаў палітыкі беларусізацыі ў БССР Аляксандр Цвікевіч прыняў рашэнне пра спыненне дзейнасці Рады міністраў БНР і прызнанні Мінска адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі. У лістападзе Цвікевіч з сям’ёй пераехаў у Мінск, працаваў у Наркамаце фінансаў, вучоным сакратаром у Інбелкульце, у Інстытуце гісторыі Беларускай АН.

4 ліпеня 1930 г. быў арыштаваны, абвінавачаны па справе „Саюза вызвалення Беларусі”. Асуджаны на 5 гадоў ссылкі, адбываў яе ў Пярмі, Ішыме, потым у Сарапуле (Удмуртыя). Паўторна арыштаваны 17 снежня 1937 г., а 30 снежня расстраляны ў Мінску. Рэабілітаваны толькі ў 1988-1989 гадах.

Аляксандр Цвікевіч — аўтар 6 манаграфій і брашур, а таксама шматлікіх артыкулаў, эсэ. Найбольш грунтоўная яго праца — «„Западно-руссизм”: Нарысы з гісторыі грамадзкай мысьлі на Беларусі ў XIX і пачатку XX стст.».

У сённяшняй Беларусі Аляксандр Цвікевіч не ўшанаваны ніяк.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Фэст у Альхоўцы

Пасля поўдня ў нядзелю, 2 чэрвеня гэтага года, у Альхоўцы (Гайнаўскі павет) збіраліся людзі на пляцоўцы за будынкам былой школы. Тут а гадзіне 17-й меўся пачацца беларускі народны фэст. Не пачаўся, бо вецер прыгнаў цёмныя хмары і лінуў праліўны дождж. Недзе перад гадзінай 18-й усё ж трэба было пачынаць. На сцэну пад брызентавай пакрышкай увайшла вядучая канцэрт Галена-Марыёля Рэент і запрасіла першым выступіць калектыў „Ручаёк” з Белавежы. Спяваў ён прыгожыя лірычныя песні пра вясновую пару — пару кахання, калі так прыгожа спяваюць салаўі. Хлопец прыйшоў і чакае, а дзяўчына не прыходзіць. Ён непакоіцца. „Выйдзі дзяўчына, выйдзі хутчэй” — спявае „Ручаёк”, у якога прыгожыя галасы. Так усё мне падалося, бо слухаў яго ўпершыню. А плылі, луналі па вёсцы песні „Вёсачка”, „Звіняць, звіняць звончыкі” і іншыя.

Як другі выканаўца выйшаў шырокавядомы не толькі на Беласточчыне хор „Васілёчкі” з Бельска-Падляшскага. Пачаў з песні „І туды гара, і сюды гара”, а пасля і „Падайце пары мужыкі”, і „Гай, гай зялёны”. Былі песні вясёлыя ды жартоўныя, з танцамі.

У Альхоўку запрасілі маладзёжны эстрадны гурт „Калінка” з Беластока. Іх бадзёрыя мелодыі заахвочвалі танцаваць. Эх, моладзь! Дзяўчаты танцавалі! Класна выступілі! Гледачам запомніліся яшчэ ў іх выкананні песні „Вяне рута”, „Паехаў мой мілы далёка”, „Ой доля ж мая” і „Чаму ж мне не пець”.

„Нараўчанкі” з Нараўкі

А дождж усё ішоў. Людзі хаваліся і пад парасонамі, і пад галінастымі дрэвамі.

У далейшай частцы канцэрта выступілі ўсім тут вядомыя стараляўкоўскія „Цаглінкі” (працуюць яны пад музычным кіраўніцтвам Мікалая Мяжэннага), „Нараўчанкі” з Нараўкі (імі кіруе Пятро Скепка). Гэтыя калектывы не губляюць сваёй добрай формы.

На фэсце ў Альхоўцы ўсе мастацкія вакальна-музычныя калектывы выступілі ў прыгожых, багата вышываных народных касцюмах.

Калі выступалі г.зв. „мясцовыя” фалькорныя калектывы, дык і дождж перастаў падаць. Сцэнай завалодаў, не менш цікавы ад папярэдніх калектыў, гурт пад арыгінальнай назвай „Брыгада дрывасекаў”, у якім выступаюць усе ахвотныя спяваць ды іграць з Гайнаўкі, Нараўкі і Альхоўкі (выступае, між іншым, лясьнічы Міраслаў Кульбацкі з Альхоўкі). Ён бавіў публіку пасля гадзіны 21-й.

Варта дадаць, што культурна-забаўляльнае мерапрыемства ў Альхоўцы арганізавалі Гмінны асяродак культуры і Гмінная ўправа ў Нараўцы ды солтыс і іншыя жыхары вёскі.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## „Цаглінкі” ў гасцях у „Росніцы”

Гастрольны маршрут фалькорнага калектыву „Цаглінкі” са Старога Ляўкова гэтым разам давёў у Беларусь, а дакладней на Гродзеншчыну. А запрасіў стараляўкоўскіх самадзейнікаў хор народнай песні „Росніца” прадпрыемства „Гродна Азот”.

Хто б адмовіўся ад такой прывабнай прапановы? У калектыве пачалася творчая падрыхтоўка, каб годна запрэзентаваць фальклор нашай малой айчыны — Падляшша на Гродзеншчыне.

У назначаны дзень ляўкоўскія самадзейнікі спакавалі касцюмы і селі ў шыкарны аўтобус „Сканія” Міраслава Нікалаюка з Бельска-Падляшскага і накіраваліся на пагранпераход у Кузніцу. Паспяхова перасекшы граніцу, нашы падарожнікі прыбылі ў цудоўны горад Гродна. Там чакалі нас сябры калектыву-пабрацiма „Росніца”.

Спачатку была экскурсія па горадзе. Наведалі мы Ленінскі і Кастрычніцкі раёны, камбінаты „Гродна Азот” і „Гроднажылбуд”, паглядзелі архітэктурныя помнікі горада над Нёманам. Пасля насычанай добрымі ўражаннямі экскурсіі адбылося першае выступленне „Цаглінак” для публікі. Бурныя, несціхаючыя апладысменты пад канец выступлення былі нам доказам высокага ўзроўню нашага калектыву. Таксама пацвярджалі гэта ў сваіх выказваннях гаспадары мерапрыемства.

Жадаючых паслухаць выступленне „Цаглінак” было больш чым чакалася і таму трэба было арганізаваць другі канцэрт у Агратурыстычным комплексе „Гарадзенскі маёнтак Каробчыцы” Гродзенскага мясакамбіната. Гэтым разам зала таксама была запоўнена да апошняга месца. Публіка не хавала захаплення стараляўкоўскім калектывам, які па-майстэрску выконваў народныя песні ў шыкоўных касцюмах.

Удзельнікі культурна-асветнай сустрэчы канстатавалі, што двухбаковыя кантакты паміж калектывамі павінны імкліва пашырацца з карысцю для збліжэння народаў Польшчы і Беларусі, узаемапазнання, культурнага абмену.

— Ваш край, Беларусь, — сказаў я ў час сустрэчы, — славуты таленавітымі людзьмі. Гродзенская зямля дала шмат вучоных, мастакоў, добрых арганізатараў гаспадарчай справы. Беларуская зямля ўзорна добраўпарадкаваная. Вашы краявіды — непаўторныя, блізкія душы чалавека. Калі глядзіш на гэтае хараство, сэрцам адчуваеш духоўную сутнасць Беларусі, непарыўную сувязь з зямлёй, з якой духам знітаваная наша малая айчына — Падляшша.

Дзейнасць калектываў „Росніца” і „Цаглінкі” спрычыняецца да захавання народнай спадчыны, узбуджае патрыятычныя пачуцці, вучыць беражлівага стаўлення да роднага. Песня ў выкананні „Росніцы” і „Цаглінак”, як пісаў паэт Станіслаў Валодзька, „у зеніце жаўранкам звініць,/ рэчкай, што прадзецца адмыслова,/ як майго народа песня-ніць”.

**Віктар БУРА**

## Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — прыказку.

1. прозвішча аўтара „Мёртвых душ” = 7 _ 9 _ 35 _ 34 _ 5 _ 6 _;
2. часам так бывае, што ён мычыць, а карова лятае = 33 _ 23 _ 3 _;
3. чарадзей = 22 _ 41 _ 15 _;
4. адзінка вымярэння = 10 _ 12 _ 8 _ 2 _;
5. расійскі абласны горад між Саранскам і Саратавам = 1 _ 38 _ 11 _ 13 _ 14 _;
6. расліна сямейства перцавых = 29 _ 30 _ 31 _ 32 _ 39 _;
7. ядомы пласцініста грыб з рыжай шапачкай = 16 _ 17 _ 24 _ 25 _ 26 _;
8. месца, заслоненае ад святла = 20 _ 28 _ 27 _ 21 _;
9. гіганцкія хвалі ад падводнага землетрасення = 40 _ 4 _ 36 _ 37 _ 18 _ 19 _.

(ш)

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | | | | | | | | | 7 | 8 | 9 | 10 |
| | | | | | | | | | | | 11 | 12 |
| | | | | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| | | | | | | | | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| | | | | | | | | | | | 27 | 28 |
| 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 | 39 | 40 | 41 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 20 нумара**

Пасцель, паляк, караван, лук, бюро, вішня, каравай, неон, парог, мі, нажніцы, Мантэсума.

Рашэнне: **У любві як на вайне — гора пераможанаму**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

## 23.06 — 29.06

**(22.03. — 20.04.)** 24-28.06. нойдуць на цябе цікавыя задумы, як лепш дамаўляцца з людзьмі, з якімі шмат цябе дзяліла. Сямейныя прапановы пакажуць табе сваё другое дно. А ты не так хутка палапаешся ў дэталях; гэта пагражае благімі рашэннямі і жалем, што адпачынак не будзе такі цудоўны, як ты марыў. Аж да 27.06. будзь вельмі асцярожны пры фінансавых ходах. Ад аўторка ў тваім прафесійным жыцці рыхтуюцца новыя перспектывы развою.

**(21.04. — 21.05.)** Ой, пакіне цябе шчасце ў гэтым тыдні наконт фінансаў... 27.06. можаш ісці на важную размову. Вялікая магчымасць сур'ёзных памылак пад уплывам эмоцый і пачуццяў, тваіх і чужых. У сераду не займайся чужым адзеннем і рэчамі. У пятніцу мноства арыгінальных ідэй.

**(22.05. — 22.06.)** Да 26.06. ты перапоўнены энергіяй. Варта выбрацца на сямейную імпрэзу ці на экскурсію. Будуць дакучаць табе не да канца вылечаныя хваробы. З 26.06. прадбачваюцца вялікія прыбыткі. Можаш адважыцца на смелыя бізнесныя мерапрыемствы і нават калі загонішся задалёка, страты не павінны цябе чакаць. Асабліва ўдала ў Блізнят з 18-20 чэрвеня.

**(23.06. — 23.07.)** Поўня Месяца (23.06.) зробіць цябе адважным, але і ўражлівым ды пачуццёвым. Да 27.06. цудоўны настрой. Венера з 27.06. моцна падмацуе цябе ў касе на твае прыхамаці. А і каханая асоба 24-28.06. ахвотна раскашэліцца. Уваход Юпітэра ў твой знак (26.06.) прадбачвае шмат мілых здарэнняў. Будзеш рэзвы і свабодны, на працы карысны пераломл. Але з 23.06. не парывайся на цяжкія мерапрыемствы, займайся лепш руціннымі справамі, не ацані памылкова сітуацыі.

**(24.07. — 23.08.)** 23-24.06. не ператамляйся, не спрачайся. З 23.06. маеш шанц справіцца са шкоднай звычкай. Маеш шанц зразумець свае пачуцці, калі Венера ўвойдзе ў твой знак 27.06.; спрыяе гэта сур'ёзным рашэнням. З 27.06. паявіцца шанц на сапраўднае каханне! Будзеш цешыцца і ганарыцца сваім гняздом.

**(24.08. — 23.09.)** Варта зайграць у латарэю. На працы будзеш мець моцную канкурэнцыю — рыхтуйся і не дай сябе заспець! З 25.06. можа так здарыцца, што твае планы не ўдадуцца. Не злуйся з-за гэтага, бо лёгка можаш пасварыцца з усімі. Адмоўся ад сумніўных здзелак, адкладзі на пасля сур'ёзныя пакупкі.

**(24.09. — 23.10.)** Пацішэе ў змаганні ў пары. Павесялееш. Хаця ночы могуць турбаваць цябе неспакойныя, цяжкія сны. Прайдзіся да лекара, абследуйся — вынікі будуць вельмі верагодныя. Маеш шанц закончыць важны праект, а кіраўніцтва цябе ўзнагародзіць. Вельмі добра цяпер дагаворваешся з іншымі.

**(24.10. — 22.11.)** 23-24.06. не ідзі на аперацыі. Ачысці свой арганізм — зёлкамі, крыху можаш пагаладаць. Задбай аб бронхі і галасавыя струны. 27.06. можаш разлічваць на спрыянне шэфа (хіба што ты „перахляпаў” справу раней). 24-26.06. будзеш адчуваць сябе сапраўды вельмі добра.

**(23.11. — 22.12.)** З 26.06. будзеш проста на сёмым небе. Усе справы павінны ісці ў карысць. Фізічна таксама станеш на ногі. Добры час на адпачынак, бо справы будзеш рэалізаваць даўжэй чым планаваў: штосьці трэба будзе папраўіць, штосьці яшчэ не даспела...

**(23.12. — 20.01.)** 23-24.06. пільнуй справы, якія табе даручылі. Будзеш схільны хутчэй выбраць сабе вяночак прыхільнікаў, чым аднаго аматара. Затое ў кар'еры не можаш разлічваць на шчасце. Ад некаторых праектаў адмовішся, іншыя адтэрмінуеш. На шчасце твае спрыт і інтэлігентнасць ды зычлівыя людзі памогуць табе выбрацца з кабалы.

**(21.01. — 19.02.)** Нечакана паявяцца новыя перспектывы развою. Прыкладзі крыху высілку, і ўсё пойдзе як па масле. З 27.06. штораз лепшыя дні ў пачуццях. Кар'ерныя справы таксама папраўяцца — абыдзецца без складанасцей, а дробныя праблемы проста абмінеш.

**(20.02. — 21.03.)** 24-28.06. атрымаеш вялікі зарад энергіі. Будзе гэта добры час на пачынанне праектаў — павінны ўсе ўдацца. У закаханых сінглаў з 26.06. разварушыцца ў сэрцы. У парах ціша і спакой. Дзеці падрыхтуюць мілую неспадзеўку. Паправіцца атмасфера на працы, запахне канікуламі.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Слядамі запальчывага беларуса

Памяць беларускага педагога, публіцыста, аўтара гістарычных эсэ, апавяданняў і вершаў, сына Міхалоўскай зямлі Міколы Гайдука 8 і 9 чэрвеня ўшанавалі ў Бельску-Падляшскім і Міхалове. Сям'я — дочкі Марыя і Іаанна, унучкі Наталля і Аляксандра, сястра Зінаіда з мужам, вучні ліцэя, калегі і знаёмыя наведалі таксама родную Кабылянку ў Міхалоўскай гміне, дзе нарадзіўся 29.05.1933 г. (у сапраўднасці ў 1931 г.) шматгадовы журналіст „Нівы", „Часопіса" і „Праваслаўнага агляду". У Майстэрні фільма, гуку і фатаграфіі ў Міхалове адкрылася выстава, прысвечаная творчасці Міколы Гайдука, паказаны фільм з яго ўдзелам, прасяваны народныя песні з яго збораў. Удзельнікі ўрачыстасцей, прымеркаваных да 80-й гадавіны з дня нараджэння пісьменніка і 15 гадавіны з дня смерці сустрэліся таксама на супольнай малітве ў Свята-Мікалаеўскай царкве ў Міхалове. На завяршэнне ўрачыстасцей удзельнікі ўсклалі кветкі на магілу Міколы Гайдука на праваслаўных могілках на Выгодзе ў Беластоку.



Справа: Мікола Гайдук, Аркадзік Ваўранюк (з Рахенталя), Вера Кананчук, Мікалай Госцік, Зіна Госцік (Монах), Алесь Госцік, Аркадзік Госцік. Здымак у чэрвені 1942 года зрабіў у Кабылянцы нямецкі салдат.

Мерапрыемствы арганізавалі Кафедра беларускай культуры Філалагічнага факультэта Беластоцкага ўніверсітэта, Праграмная рада беларускага тэднёвіка „Ніва" ў Беластоку, Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім, Беларускае гістарычнае таварыства ў Польшчы, Майстэрня фільма, гуку і фатаграфіі ў Міхайлове, Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы, рэдакцыі штомесячнікаў „Przegląd Prawosławny" і „Czasopis".

У першы дзень мерапрыемства адбылася навуковая канферэнцыя, прысвечаная Міколу Гайдуку. Канферэнцыя прайшла ў ІІ Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім. У ёй прынялі ўдзел беларускія грамадскія дзеячы, журналісты, літаратары, гісторыкі з Польшчы. На канферэнцыі ўсебакова была абмеркавана творчасць і дзейнасць ды асоба Міколы Гайдука. Разважалі (плён канферэнцыі будзе змешчаны ў адмысловай кнізе памяці): Алена Глагоўская — „Мікола Гайдук — чаму заслужыў на памяць?", Гражына Харытанюк-Міхей — „Бібліяграфія творчасці Міколы Гайдука і яго зацікаўленні беларускім фальклорам"; Анжаліна Масальская — „Калекцыя Міколы Гайдука ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы"; Дарафей Фіёнік — „Вясна ў Мікулічах 30 гадоў пазней — працяг пачатага Міколам Гайдуком"; Славамір Іванюк — „Пра педагагічную дзейнасць Міколы Гайдука"; Яўген Вапа — „Мікалай Гайдук як журналіст «Нівы»"; Тэрэза Занеўская — „У свеце паэтычных уяўленняў Міколы Гайдука"; Анна Саковіч — „Пра празаічную творчасць Міколы Гайдука"; Юрка Хмялеўскі — „Мікола Гайдук як публіцыст і прыяцель «Czasopisа»"; Яўген Чыквін — „Супрацоўніцтва Міколы Гайдука з асяроддзем штомесячніка «Przegląd Prawosławny»"; Ірэна Матус — „Зацікаўленні Міколы Гайдука Брэсцкай уніяй". Вечарам адбылася вечарына ўспамінаў пра Міколу Гайдука.

Мікола Гайдук быў дырэктарам беларускага ліцэя ў Бельску. На сцяне ліцэя бачым яго партрэт у пераліку ўсіх кіраўнікоў гэтай беларускай школы. Цяперашні дырэктар ліцэя Андрэй Сцепанюк: „На ўроках беларускай мовы мы знаёмімся з творчасцю Міколы Гайдука. Асабліва хачу падкрэсліць яго зацікаўленне фальклорам. Тое, што ён ездзіў, збіраў фальклор, паказвае яго не толькі як чалавека, які быў засяроджаны на сваёй творчасці, але які хацеў захаваць спадчыну сваіх продкаў. Няхай маладыя людзі ведаюць і падыходзяць да гэтага з усведамленнем, што на іх таксама ўскладзены такі абавязак".







Унучка Аляксандра Пільціцкая на фоне Гайдуковага сада ў Кабылянцы

Мікола Гайдук быў празаікам, паэтам, публіцыстам, перакладчыкам паэзіі з польскай на беларускую мову, фалькларыстам, краязнаўцам, педагогам, гісторыкам, грамадскім і рэлігійным дзеячам беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Скончыў агульнаадукацыйны ліцэй у мястэчку Міхалова (1951). Тут таксама два гады працаваў у гміннай управе. З 1953 г. вучыўся ў СССР на філалагічных факультэтах ва ўніверсітэтах Растова-на-Доне і Ленінграда. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт у Мінску (1959), працаваў у Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім спачатку як настаўнік беларускай і лацінскай моў, з 1965 г. як дырэктар ліцэя. У 1959-1964 гг. адначасова выкладаў беларускую літаратуру на беларускім аддзяленні завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку. З 1971 г. працаваў у тыднёвіку „Ніва", у 1971-1986 гг. публіцыстам, у 1986-1988 гг. — намеснікам галоўнага рэдактара. З 1988 г. на пенсіі. Апрача „Нівы" змяшчаў свае творы і артыкулы ў перыядычных выданнях: Літаратурны альманах „Белавежа", „Беларускі каляндар", „Przegląd Prawosławny", „Czasopis", „Studia Polono-Slavica-Orientalia", „Literatura Ludowa: dwumiesięcznik naukowo-literacki", „Slavia Orientalis", „Весткі Інстытута беларусаведы" (Ляймен, Нямеччына), „Беларускі сьвет" (Дэтройт, ЗША), штодзённай беластоцкай прэсе і іншых. Сябра Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" (з 1958), сябра Саюза польскіх пісьменнікаў (з 1985). Дэбютаваў у друку ў „Ніве" ў 1957 г. (№ 33) вершам на беларускай мове „Мне тваё палкія вусны...". Сваю публіцыстычную дзейнасць запачаткаваў нарысам пра жыццё і творчасць Уладзіслава Сыракомлі — Людвіка Кандратовіча („Ніва", 1957, № 37). У „Ніве" ад 1960 г. (№ 45) паявілася першая апрацаваная легенда „Жывая вада". Аўтар зборніка вершаў на беларускай мове „Ціш" (Беласток 1988), апавяданняў, аповесцей і гістарычных эсэ „Трызна", „Паратунак", „Брэсцкая унія", казак. На польскай мове выдаў „Белавежскія паданні" (Беласток 1990). Гайдук Мікола Рамановіч падпісваўся таксама псеўданімамі: Міка, І. Снарскі, Ігнат Снарскі, М. Снарскі, А. Чабор, Алесь Чабор; крыптанімамі: М.Г. мг, іс. Займаўся перакладамі з лацінскай, польскай і рускай моў. Збеларушчыў м.інш. вершы Мацея Казімежа Сарбеўскага, Леанарда Падгорскага-Акалава, Ежы Плютовіча, Эльжбеты Казлоўскай-Сьвёнткоўскай, апавяданні і аповесці Іпаліта Краскоўскага. Пісаў на беларускай і польскай мовах. Апублікаваў каля 800 уласных запісаў беларускіх песень з нотамі, краязнаўчы слоўнік. Сааўтар з Лідзіяй Гайдук падручнікаў па беларускай мове для III, IV, V класаў (тры выданні) і граматыкі беларускай мовы для V-VIII класаў, а з Аленай Іванкевіч і Яўгеніяй Іванюк — падручніка для II класа. Апрацаваныя М. Гайдуком казкі, паданні і легенды, сабраныя на Беласточчыне (першапачаткова друкаваныя ў „Ніве") выйшлі з друку ў зборніках: „Аб чым шуміць Белавежская пушча. Казкі і легенды" (Беласток 1982), „Białowieskie opowieści" (Białystok 1990), „Белавежскія быліцы і небыліцы. Легенды, паданні" (Мінск 1996), „Легенды Беласточчыны" (Беласток 1997). Таксама друкаваныя ў „Ніве" народныя песні з нотамі ўвайшлі ў зборнік „Песні Беласточчыны" (Мінск 1997). Выбраў і апрацаваў зборнік вершаў „Храм і верш. Праваслаўныя святыні Усходняй Польшчы і беларуская духоўная паэзія" (Беласток 1993). Рэдагаваў праваслаўны рэлігійны маладзёвы штоквартальнік „Фос", адрыўны каляндар штомесячніка „Przegląd Prawosławny" і „Беларускі каляндар" Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Мікола Гайдук быў узнагароджаны сярэбраным (1969) і залатым (1976) Крыжамі заслугі, Кавалерскім крыжам ордэна Адраджэння Польшчы (1984), Адзнакай 1000-годдзя Польскай дзяржавы (1966), Медалём Камісіі нацыянальнай адукацыі (1977), адзнакай Заслужаны дзеяч культуры (1986), сярэбранай (1974) і залатой (1978) адзнакамі Заслужаны для Беласточчыны, ордэнамі святой роўнаапостальнай Марыі Магдалены III (1993) і II (1995) ступеняў, Ганаровай граматай міністра культуры Рэспублікі Беларусь (1996), Узнагародай імя князя Канстанціна Астрожскага (1997).

Сакрат Яновіч сказаў, што „Мікола Гайдук — этнограф, але і пісьменнік, пісьменнік, але і этнограф" („Тэрмапілы", 1998, с. 127). „Мікола Гайдук быў заўсёды перакананы, што нашы людзі любяць заглядваць у сваё мінулае вачыма легендаў. Эпічным спакоем поўняцца выдатныя кнігі Міколы Гайдука" (Вольга Шынкарэнка). Барыс Сачанка ў прадмове да кнігі „Трызна" адзначаў, што творчасць Міколы Гайдука — „гэта даніна любові і павагі да роднага краю, жаданне хоць што-кольвечы зрабіць дзеля яго велічы і славы, далучыць да яго новых прыхільнікаў і шанавальнікаў". Так напісаў у прадмове да „Трызны" — кнігі гістарычных эсэ Міколы Гайдука Вячаслаў Чамярыцкі: „Зразумела, у цэнтры гэтага займальнага падарожжа перавважна мінулае так роднага і дарагога Міколу Гайдуку краю — Падляшша. Але ў ім, бы ў вялікай кроплі, бы ў чыстым люстры, добра бачыцца ўся беларуская гісторыя".

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

ISSN 0546-1960